Пралетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА.

# БЮЛЕТЭНЬ
## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ
## БЕЛАРУСКАЕ ССР.



1 СЬНЕЖНЯ 1926 г.

№ 15 (24)

2-гі год ВЫДАНЬНЯ

ВЫДАНЬНЕ СНК БССР
МЕНСК—1926 г.



Пралетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА.

# БЮЛЕТЭНЬ

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЕ ССР.



1 СЬНЕЖНЯ 1926 г.
№ 15 (24)



II-гі год ВЫДАНЬНЯ

ВЫДАНЬНЕ СНК БССР
МЕНСК—1926 г.



# ЗЬМЕСТ.

## Частка афіцыйная.



## Частка неофіцыйная.

---

# ДРУКАРСКІЯ ПАМЫЛКІ.

У Бюлетэні № 14 [23] ў Пастанове Эканамічнае Нарады БССР „Аб парадку скарыстаньня сум, якія паступаюць ў зварот лясных пазык.“ на стар. 7 у п. 4, радок 2—3 зьверху надрукавана: „ з 1926-27 году , . .“, трэба чытаць: „з 1927/28 году. . .“

---

## 1. Інструкцыя Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР аб выбарах у саветы.

### I. АБ ВЫБАРЧЫХ КАМІСІЯХ.

### А. ЦЭНТРАЛЬНАЯ ВЫБАРЧАЯ КАМІСІЯ.

1 Для агульнага кіраваньня выбарчай кампаніяй па выбарах у саветы пры Цэнтральным Выканаўчым Камітэце БССР ствараецца Цэнтральная Выбарчая Камісія.

2. Цэнтральная Выбарчая Камісія ўтвараецца ў складзе 17-ці асоб: 4-х прадстаўнікоў ад Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту, па адным ад: Цэнтральнага Савету Прафэсыянальных Саюзаў Беларусі, Цэнтральнага Камітэту Ленінскага Камуністычнага Саюзу Моладзі Беларусі, аддзелу работніц і сялянак ЦК КП(б)Б, Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі, Чырвонай Арміі, ад нацыянальных меншасьцяй: яўрэяў, палякаў, латышоў і літоўцаў; па два прадстаўнікі ад рабочых і сялян, якія непасрэдна дачыняюцца прадпрыемстваў і сельскай гаспадаркі.

3. Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР назначае Старшыню Цэнтральнай Выбарчай Камісіі і зацьвярджае яе пэрсанальны склад.

4. Да правоў і абавязкаў Цэнтральнай Выбарчай Камісіі належыць:

а) нагляд за законным і своечасным правядзеньнем выбараў на тэрыторыі БССР;

б) дача Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР вестак і справаздач аб ходзе выбарчай кампаніі;

в) разгляд справаздач акруговых выбарчых камісій;

г) дача Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР прапаноў аб адмене выбараў у тым ці іншым выбарчым вучастку;

д) дача Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР прапаноў аб роспуску акруговых выбарчых камісій або адводзе асобных членаў іх, а таксама аб адмене незаконных пастаноў і распараджэньняў акруговых выбарчых камісій;

е) разгляд ва ўстаноўлены час пратэстаў і скарг на ўчынкі акруговых выбарчых камісій.

### Б. АКРУГОВЫЯ ВЫБАРЧЫЯ КАМІСІІ.

5. Для агульнага кіраваньня выбарчай кампаніяй і своечаснага правядзеньня выбараў у саветы на тэрыторыі акругі пры акруговых выканаўчых камітэтах утвараюцца акруговыя выбарчыя камісіі ў складзе 11-ці асоб: старшыні і двох прадстаўнікоў акруговага выканаўчага камітэту, па адным прадстаўніку: ад акруговага бюро прафэсыянальных саюзаў, аддзелу работніц і сялянак, акруговага Камітэту КП(б)Б., акруговага камітэту Ленінскага Камуністычнага Саюзу Мо-

ладзі Беларусі, акруговага камітэту Таварыстваў Сялянскай Узаемадапамогі, гарадзкога савету, Чырвонай Арміі і 2-х прадстаўнікоў ад нацыянальных меншасьцяй.

*Увага.* У тых акругах, дзе ёсьць больш дзьвёх нацыянальных меншасьцяй, ад кожнай з іх можна ўводзіць у склад акруговай выбарчай камісіі яшчэ па адным прадстаўніку.

6. Пэрсанальны склад акруговай выбарчай камісіі зацьвярджаецца прэзыдыумам акруговага выканаўчага камітэту.

7. Старшыня акруговай выбарчай камісіі зацьвярджаецца па прадстаўленьню Цэнтральнае Выбарчае Камісіі Прэзыдыумам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР.

8. Да правоў і абавязкаў акруговай выбарчай камісіі належыць:

а) нагляд за законным і сваячасным правядзеньнем выбараў на тэрыторыі акругі;

б) кіраваньне работай раённых выбарчых камісій і гарадзкой выбарчай камісіі акруговага гораду па правядзеньні выбараў;

в) дача вестак і справаздач аб ходзе выбарчай кампаніі ў межах акругі акруговаму выканаўчаму камітэту і Цэнтральнай Выбарчай Камісіі;

г) разгляд справаздач раённых выбарчых камісій і гарадзкой выбарчай камісіі акруговага гораду;

д) дача прэзыдыуму акруговага выканаўчага камітэту прапаноў аб адмене выбараў у тым ці іншым выбарчым вучастку акругі;

е) дача прэзыдыуму акруговага выканаўчага камітэту прапаноў аб роспуску раённых выбарчых камісій і гарадзкой выбарчай камісіі акруговага гораду, або ад адводзе асобных членаў іх, а таксама аб адмене незаконных пастаноў і распараджэньняў раённых выбарчых камісій і гарадзкой выбарчай камісіі акруговага гораду;

ж) разгляд ва ўстаноўлены час пратэстаў і скарг на ўчынкі раённых выбарчых камісій і гарадзкой выбарчай камісіі акруговага гораду;

з) пасылка сваіх прадстаўнікоў у раённыя выбарчыя камісіі і ў гарадзкую выбарчую камісію акруговага гораду для азнаямленьня з іх работай і ходам выбарчай кампаніі.

9. Акруговая выбарчая камісія ў сваёй чыннасьці падсправаздачна акруговаму выканаўчаму камітэту і Цэнтральнай Выбарчай Камісіі і кіруецца іх паказаньнямі і распараджэньнямі.

## В. РАЁННЫЯ ВЫБАРЧЫЯ КАМІСІІ.

10. Для кіраваньня выбарчай кампаніяй на тэрыторыі раёну пры раённых выканаўчых камітэтах утвараюцца раённыя выбарчыя камісіі ў складзе 9-ці асоб: старшыні і двох прадстаўнікоў раённага выканаўчага камітэту і па адным прадстаўніку: ад раённага аб'яднаньня прафэсыянальных саюзаў, раённага камітэту Ленінскага Камуністычнага Саюзу Моладзі, арганізатара работніц і сялянак раённага камітэту КП(б)Б, Чырвонай Арміі, раённага камітэту таварыстваў сялянскай узаемадапамогі і двох прадстаўнікоў ад нацыянальных меншасьцяй.

*Увага 1.* У тых раённых цэнтрах, дзе ёсьць гарадзкія саветы, у склад раённай выбарчай камісіі ўводзіцца адзін прадстаўнік гарадзкога савету замест аднаго з двох прадстаўнікоў раённага выканаўчага камітэту.

*Увага 2.* У тых раённых цэнтрах, дзе знаходзяцца часьці Чырвонай Арміі, ў склад раённай выбарчай камісіі ўводзіцца прадстаўнік ад Чырвонай Арміі.

*Увага 3.* У тых раёнах, дзе ёсьць больш дзьвёх нацыянальных меншасьцяй, ад кожнай з іх можна ўводзіць у склад раённай выбарчай камісіі яшчэ па адным прадстаўніку.

11. Пэрсанальны склад раённай выбарчай камісіі зацьвярджаецца прэзыдыумам раённага выканаўчага камітэту.

12. Старшыня раённай выбарчай камісіі зацьвярджаецца, па прадстаўленьні акруговай выбарчай камісіі, прэзыдыумам акруговага выканаўчага камітэту.

13. Да правоў і абавязкаў раённай выбарчай камісіі належаць:

а) нагляд за законным і своечасным правядзеньнем выбараў на тэрыторыі раёну;

б) кіраваньне работай сельскіх і местачковых выбарчых камісій і гарадзкой выбарчай камісіі неакруговага гораду па правядзеньні выбараў;

в) дача вестак і справаздач аб ходзе выбарчай кампаніі на тэрыторыі раёну раённаму выканаўчаму камітэту і акруговай выбарчай камісіі;

г) разгляд справаздач сельскіх і местачковых выбарчых камісій і гарадзкой выбарчай камісіі неакруговага гораду;

д) дача прэзыдыуму раённага выканаўчага камітэту прапаноў аб адмене выбараў у тым ці іншым выбарчым вучастку раёну;

е) дача прэзыдыуму раённага выканаўчага камітэту прапаноў аб роспуску сельскіх і местачковых выбарчых камісій і гарадзкой выбарчай камісіі неакруговага гораду або аб адводзе асобных членаў іх, а таксама аб адмене незаконных пастаноў і распараджэньняў сельскіх і местачковых выбарчых камісій і гарадзкой выбарчай камісіі неакруговага гораду;

ж) разгляд ва ўстаноўлены час пратэстаў і скарг на ўчынкі сельскіх і местачковых выбарчых камісій і гарадзкой выбарчай камісіі неакруговага гораду;

з) пасылка сваіх прадстаўнікоў у сельскія і местачковыя выбарчыя камісіі і гарадзкую выбарчую камісію неакруговага гораду для азнаямленьня з іх работай і ходам выбарчай кампаніі.

14. Раённая выбарчая камісія ў сваёй чыннасьці падсправаздачна раённаму выканаўчаму камітэту і акруговай выбарчай камісіі і кіруецца іх распараджэньнямі і паказаньнямі.

## Г. ГАРАДЗКІЯ, МЕСТАЧКОВЫЯ І СЕЛЬСКІЯ ВЫБАРЧЫЯ КАМІСІІ.

15. Гарадзкія выбарчыя камісіі ўтвараюцца пры гарадзкіх саветах у складзе 9-ці асоб: старшыні і двох членаў гарадзкога савету, якія выбіраюцца пленумам савету і непасрэдна дачыняюцца прадпрыемстваў, па адным прадстаўніку ад: аб'яднаньня прафэсыянальных саюзаў, камітэту Ленінскага Камуністычнага Саюзу Моладзі, аддзелу работніц і сялянак, а ў неакруговых гарадох—ад агульна-гарадзкога дэлегацкага сходу работніц, Чырвонай Арміі і двох прадстаўнікоў ад нацыянальных меншасьцяй.

*Увага.* У тых гарадох, дзе ёсьць больш дзьвёх нацыянальных меншасьцяй, ад кожнай з іх можна ўводзіць у склад гарадзкой выбарчай камісіі яшчэ па адным прадстаўніку.

16. Пэрсанальны склад гарадзкой выбарчай камісіі зацьвярджаецца пленумам гарадзкога савету.

17. Старшыня гарадзкой выбарчай камісіі акруговага гораду зацьвярджаецца прэзыдыумам акруговага выканаўчага камітэту, а старшыня гарадзкой выбарчай камісіі неакруговага гораду—прэзыдыумам раённага выканаўчага камітэту.

18. Гарадзкая выбарчая камісія ў сваёй чыннасьці падсправаздачна презыдыуму гарадзкога савету і раённай (у неакруговых гарадох) або акруговай (у акруговых гарадох) выбарчай камісіі і кіруецца іх распараджэньнямі і паказаньнямі.

19. Местачковыя выбарчыя камісіі ўтвараюцца ў складзе 7 асоб: старшыні і аднаго члена местачковага савету і па адным прадстаўніку: ад местачковага аб'яднаньня прафэсыянальных саюзаў, дэлегацкага сходу работніц, Ленінскага Камуністычнага Саюзу Моладзі, і двох прадстаўнікоў ад нацыянальных меншасьцяй.

*Увага 1.* У тых мястэчках, дзе ёсьць часьці Чырвонай Арміі, у склад местачковай выбарчай камісіі ўводзіцца адзін прадстаўнік ад Чырвонай Арміі.

*Увага 2.* У тых мястэчках, дзе існуюць нацыянальныя (яўрэйскія) саветы і беларусы зьяўляюцца меншасьцю мястэчка, у склад выбарчай камісіі павінен быць уведзен адзін прадстаўнік ад беларускага насяленьня.

20. Старшыня местачковай выбарчай камісіі назначаецца прэзыдыумам раённага выканаўчага камітэту.

21. Пэрсанальны склад местачковай выбарчай камісіі зацьвярджаецца пленумам местачковага савету.

22. Местачковая выбарчая камісія ў сваёй чынасьці падсправаздачна местачковаму савету, раённай выбарчай камісіі і раённаму выканаўчаму камітэту і кіруецца іх паказаньнямі і распараджэньнямі.

23. Сельскія выбарчыя камісіі ўтвараюцца ў складзе 7-мі асоб: старшыні і двох членаў сельскага савету, аднаго прадстаўніка ад прафэсыянальных саюзаў, і па адным прадстаўніку ад дэлегацкага сходу сялянак, ячэйкі Ленінскага Камуністычнага Саюзу Моладзі і сельскага камітэту таварыства сялянскай узаемадапамогі.

*Увага 1.* У сельсаветах, дзе ёсьць часьці Чырвонай Арміі, у склад сельскай выбарчай камісіі, ўводзіцца адзін прадстаўнік ад Чырвонай Арміі.

*Увага 2.* У тых сельскіх мясцовасьцях, дзе ёсьць нацыянальныя меншасьці, у склад сельскай выбарчай камісіі ўводзіцца ад іх яшчэ па адным прадстаўніку.

24. Старшыня сельскай выбарчай камісіі назначаецца прэзыдыумам раённага выканаўчага камітэту.

25. Пэрсанальны склад сельскай выбарчай камісіі зацьвярджаецца пленумам сельскага савету. Сельская выбарчая камісія для асобных выбарчых вучасткаў сельскага савету вылучае сваіх упаўнаважаных, якія зацьвярджаюцца пленумам сельскага савету.

26. Сельская выбарчая камісія ў сваёй дзейнасьці падсправаздачна сельскаму савету, раённай выбарчай камісіі і раённаму выканаўчаму камітэту і кіруецца іх распараджэньнямі і паказаньнямі.

27. Да правоў і абавязкаў сельскіх, местачковых і гарадзкіх выбарчых камісій належаць:

а) правядзеньне выбараў на тэрыторыі сельскага, местачковага і гарадзкога савету, назначэньне часу выбараў і нагляд за законным і своечасным іх правядзеньнем;

б) дача паведамленьняў аб ходзе выбараў, інфармацыйных і статыстычных сводак, справаздач і матар'ялаў сельскім, местачковым і гарадзкім саветам і раённай, а ў акруговым горадзе—акруговай выбарчай камісіі;

в) дача прапаноў сельскім, местачковым і гарадзкім саветам аб незацьверджаньні і адмене выбараў у цалку або ў дачыненьні да асобных грамадзян па выбарчых вучастках, у выпадку парушэньня Канстытуцыі БССР і гэтай інструкцыі;

г) разгляд ва ўстаноўлены час пратэстаў і скарг на няправільнае правядзеньне выбараў у саветы.

д) праверка сьпіскаў выборшчыкаў, састаўленьне і апублікаваньне сьпіскаў асоб, пазбаўленых выбарчага права;

е) рассылка выборшчыкам імянных выбарчых позваў і паведамленьне іх аб месцы і часу выбарчага сходу;

ж) назначэньне ўпаўнаважаных у якасьці старшынь на выбарчыя сходы.

## Д. АБ АПАРАЦЕ ВЫБАРЧЫХ КАМІСІЙ І ЧАСУ ІХ РАБОТЫ.

28. Выбарчыя камісіі свайго апарату не ствараюць і ў сваёй рабоце карыстаюцца апаратамі адпаведных саветаў і выканаўчых камітэтаў.

29. Акруговыя, раённыя, гарадзкія, местачковыя і сельскія выбарчыя камісіі дзейнічаюць у час выбарчай кампаніі і па сканчэньні яе распускаюцца пастановамі Цэнтральнай Выбарчай Камісіі.

30. Па сканчэньні работы выбарчыя камісіі здаюць усе матар'ялы па выбарах адпаведнаму савету, або выканаўчаму камітэту.

## II. ВЫЗНАЧЭНЬНЕ КОЛА ВЫБОРШЧЫКАЎ І КОЛА АСОБ, ПАЗБАЎЛЕНЫХ ВЫБАРЧАГА ПРАВА.

31. Правам выбіраць і быць выбранымі ў саветы карыстаюцца незалежна ад полу, вызнаньня, расы, нацыянальнасьці, аседласьці і да г. п. наступныя грамадзяне Беларускае Савецкае Сацыялістычнае Рэспублікі, якім да дня выбараў споўнілася 18 год:

а) усе асобы, якія здабываюць сродкі да існаваньня вытворчай і грамадзка-карыснай працай, а таксама асобы, занятыя хатняй гаспадаркай, якая забясьпечвае для першых магчымасьць вытворчае працы;

б) чырвонаармейцы і чырвонафлётцы Рабоча-Сялянскае Чырвонае Арміі і Флёту;

в) грамадзяне, якія належаць да катэгорый, пералічаных ў п. п. „а" і „б" гэтага артыкулу і страцілі ў якой-небудзь меры працаздольнасьць.

32. Выбарчага права пазбаўляюцца, паводле Канстытуцыі БССР, наступныя катэгорыі асоб:

а) асобы, якія карыстаюцца або карысталіся наёмнай працай для набыцьця прыбыткаў, а імення: земляробы, якія ўжываюць наёмную працу сэзонную, або пастаянную ў такім абхваце, што пашырае іх гаспадаркі за межы працоўных; земляробы, якія побач з земляробчай гаспадаркай маюць прамысловыя заводы і прадпрыемствы (млыны, крупадзёркі і інш.) з ужыткам пастаяннай, або сэзоннай наёмнай працы; саматужнікі і рамесьнікі, якія ўжываюць паста-




яннную наёмную рабочую сілу; уласьнікі прадпрыемстваў фабрычна-заводзкага тыпу.

*Увага.* Гаспадарка, якая ўжывае наёмную працу, ня траціць характару працоўнай пры наяўнасьці наступных дзьвёх умоў:

1) абавязковага ўдзелу ў штодзённай рабоце гаспадаркі наяўных працаздольных яго членаў;

2) падсобнага характару наёмнай працы;

б) асобы, якія жывуць або жылі на непрацоўныя прыбыткі, або займаюцца ці займаліся гандлем, а іменна: асобы, якія закабаляюць акаляючае насяленьне шляхам сыстэматычнай дачы ў яго карыстаньне сельска-гаспадарчых машын, рабочай жывёлы і інш., або пастаянна даюць насяленьню пазыкі (таварам ці грашмі) на кабальных умовах; прыватныя гандляры і перакупшчыкі; прыватныя гандлёвыя і камэрцыйныя пасрэднікі;

в) былыя афіцэры і чыноўнікі белых армій, а таксама кіраўнікі контр-рэвалюцыйных бандаў;

г) асобы, якія падходзяць па сваім клясавым становішчы да моманту выбараў, або па сваёй мінулай дзейнасьці да катэгорыі пазбаўленых выбарчага права паводле адпаведных артыкулаў Канстытуцыі БССР, а іменна: усе служачыя і агэнты былой паліцыі, асобага корпусу жандараў і ахранных аддзяленьняў, члены царавашага дому, а таксама ўсе асобы, якія проста ці пабочна кіравалі дзейнасьцю паліцыі, жандармэрыі і карных органаў, як пры царскім урадзе, гэтак і пры белых контр-рэвалюцыйных урадах, як былыя міністры і іх таварышы, дырэктары дэпартамэнтаў міністэрстваў, гэнэрал-губэрнатары, галоўныя начальнікі пры надзвычайнай ахране, ваенныя і грамадзянскія губэрнатары, віцэ-губэрнатары, губэрскія і павятовыя маршалкі і члены крымінальных дэпартамэнтаў, а таксама пракуроры і таварышы пракурораў судовых палат, сьледчыя па важнейшых справах, старшыні і члены ваенных судоў усіх найменьняў, ваенныя пракуроры і іх памочнікі, члены губэрскіх праўленьняў, земскія, сялянскія і павятовыя начальнікі, чыны міністэрства ўнутраных спраў і ўсе служачыя турэмнага ведамства;

д) былыя і сучасныя служачыя рэлігійных культаў;

е) адміністрацыйна высланныя асобы, а таксама асобы, у дачыненьні якіх адбыліся судовыя прыгавары, што пазбаўляюць іх з прычыны іх сувязі са злачынным элемэнтам, права пражываньня на месцы ранейшага жыцьця; пазбаўленыя правоў прыгаварамі судоў; асобы, якія знаходзяцца ў мясцох пазбаўленьня свабоды.

33. Апрача асоб, пералічаных у арт. 32 гэтай інструкцыі, могуць быць пазбаўлены выбарчага права, па хадайнічаньні акруговых выканаўчых камітэтаў, асобы або групы асоб пастановай Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР, калі яны выкарыстоўваюць гэтае права на шкоду інтарэсам сацыялістычнай рэвалюцыі.

34. Паводле Канстытуцыі БССР ня могуць быць пазбаўлены выбарчага права:

а) сяляне-земляробы, якія ўжываюць у сваёй гаспадарцы наёмную працу аднаго пастаяннага рабочага пры асобых акалічнасьцях, як: хвароба, мабілізацыя, выбар на грамадзкую пасаду, якая патрабуе адрыву ад гаспадаркі на ўвесь час такога становішча гаспадаркі;

б) земляробы, якія наймаюць у час галоўных летніх работ на кароткую пару ня больш двох чалавек для ўборкі збажыны і травы;

в) саматужнікі і рамесьнікі, якія ў сваёй працоўнай гаспадарцы ня ўжываюць наёмнай сілы, або карыстаюцца на моцы ўмоў вытворчасьці наёмнай працай аднаго дарослага рабочага ці двох вучняў;

г) узятыя ў свой час у рады белых армій шляхам мабілізацыі рабочыя, працоўныя сяляне і казакі, саматужнікі і рамесьнікі.

*Увага.* З былых афіцэраў і чыноўнікаў белых армій, а таксама кіраўнікоў контр-рэвалюцыйных банд, могуць карыстацца выбарчым правам толькі тыя, у дачыненьні якіх ёсьць адпаведныя акты ўрадаў Саюзу ССР, БССР або іншых саюзных рэспублік.

д) асобы, якія атрымліваюць проценты з працоўных укладаў і з аблігацый дзяржаўных, каапэрацыйных пазык пры ўмове, калі такія даходы не зьяўляюцца асноўнай крыніцай іх існаваньня і калі гэтыя асобы не пазбаўлены выбарчага права па іншых прычынах;

е) асобы, якія на моцы асаблівых прычын, займаюцца дробным гандлем, як: інваліды працы і вайны, што гандлююць па бясплатных патэнтах Народнага Камісарыяту Сацыяльнай Забясьпекі, беспрацоўныя рабочыя і служачыя, што выбіраюць патэнты 1-га разраду, калі гэты заняток зьяўляецца для іх часовым;

ж) асобы, якія па найму або па выбары рэлігійных абшчын займаюцца адміністрацыйна-гаспадарчым і тэхнічным абслугоўваньнем будынкаў рэлігійных культаў і рэлігійных абрадаў: як: вартаўнікі, прыбіральнікі, званары, пеўчыя і да г. п., а таксама члены прыходзкіх рад, калі гэтыя асобы не пазбаўлены выбарчага права па іншых прычынах;

з) асобы вольных прафэсій, што займаюцца грамадзка-карыснай працай і не пазбаўлены выбарчага права па іншых артыкулах Канстытуцыі БССР і Канстытуцый іншых саюзных рэспублік;

і) члены сем'яў асоб, пазбаўленых выбарчага права, не пазбаўляюцца выбарчага права ў тых выпадках, калі яны матар'яльна не залежаць ад іх і крыніцай для іх існаваньня зьяўляецца самастойная грамадзка-карысная праца.

## III. АБ ПАРАДКУ СКЛАДАНЬНЯ СЬПІСАЎ ВЫБАРШЧЫКАЎ.

35. Сьпісы асоб, якія карыстаюцца выбарчым правам, складаюцца сельскімі, местачковымі і гарадзкімі саветамі па ўстаноўленай форме.

36. У сьпісы выбаршчыкаў запісваюцца ўсе грамадзяне, якія пастаянна ці часова пражываюць на тэрыторыі даннага сельскага савету, мястэчка, або гораду і карыстаюцца выбарчым правам паводле Канстытуцыі БССР.

37. Выбаршчыкі, якія часова адсутнічаюць (напрыклад, на сэзонных заработках, або па іншых прычынах), таксама запісваюцца ў сьпісы па месцы свайго пастаяннага жыцьця, з тым, каб яны маглі ў выпадку звароту да часу выбараў, зьдзейсьніць свае выбарчае права.

38. Сельскія, местачковыя і гарадзкія выбарчыя камісіі, пасьля іх арганізаваньня, правяраюць і, у выпадку неабходнасьці, папраўляюць сьпісы выбаршчыкаў.

39. Асобы, якія карыстаюцца выбарчым правам, але незапісаны па тых ці іншых прычынах у сьпісы выбаршчыкаў, могуць абскардзіць няўключэньне іх у сьпіс перад адпаведнымі выбарчымі ка-

місіямі, або ў пэрыяд паміж выбарчымі кампаніямі, перад сельскімі, местачковымі і гарадзкімі саветамі, якія пасьля праверкі сапраўднасьці гэтых скаргаў, задавальняюць іх або адхіляюць.

## IV. АБ ПАРАДКУ СКЛАДАНЬНЯ СЬПІСАЎ АСОБ, ПАЗБАЎЛЕНЫХ ВЫБАРЧАГА ПРАВА.

40. Сельскія, местачковыя і гарадзкія саветы вядуць пастаянны пісьмовы вучот асоб, пазбаўленых выбарчага права, прычым ў сельскіх мясцовасьцях вучот вядзецца па асобных паселішчах.

41. Вучот асоб, пазбаўленых выбарчага права, праводзіцца на грунце вестак дакумэнтальнага характару:

а) у дачыненьні асоб, пазбаўленых выбарчага права судом—на грунце копій прыгавораў, або даведак адпаведных судовых органаў;

б) у дачыненьні асоб, якія ўжываюць наёмную працу для набыцьця прыбыткаў, а таксама асоб, якія жывуць на непрацоўны прыбытак—на грунце вестак грашовых органаў аб унясеньні іх у сьпісы плацельшчыкаў падаходнага і прамысловага падатку па азнацы непрацоўнага даходу;

в) у дачыненьні асоб, якія займаюцца гандлем—на грунце даведак грашовых органаў аб выбарцы імі патэнтаў;

г) у дачыненьні звар'яцелых або душэўна-хворых—на грунце актаў органаў аховы здароўя, або завераных копій з гэтых актаў аб прызнаньні іх звар'яцелымі або душэўна-хворымі;

в) у дачыненьні ўсіх іншых асоб, пазбаўленых выбарчага права (служачых і агэнтаў былой паліцыі і інш.)—на грунце даведак адміністрацыйных органаў, або раённых выканаўчых камітэтаў, сельскіх і местачковых саветаў.

42. Выбарчая камісія накіроўвае адзін экзэмпляр сьпісу пазбаўленых выбарчага права у сельскіх паселішчах—сельскаму савету, у мястэчках—местачковаму савету, у гарадох—прэзыдыуму гарадзкога савету, а другі экзэмпляр—вышэйшай выбарчай камісіі.

43. Выбарчыя камісіі публікуюць для агульнага ведама сьпісы асоб, пазбаўленых выбарчага права, не пазьней як за 20 дзён да выбараў адпаведнага савету шляхам абавязковага іх вывешваньня, апрача гэтага, сьпісы могуць быць агалошаны на сходах.

## V. АБ ПАРАДКУ АДНАЎЛЕНЬНЯ Ў ВЫБАРЧЫХ ПРАВОХ І АБ ПАРАДКУ РАЗГЛЯДУ СКАРГ ГРАМАДЗЯН, ПАЗБАЎЛЕНЫХ ВЫБАРЧАГА ПРАВА.

44. Асобы, пазбаўленыя выбарчага права, як былыя афіцэры і чыноўнікі белых армій, былыя служачыя паліцыі, турэмнага ведамства, корпусу жандараў і г. д. (п.п. „в" і „г" арт. 32) могуць быць у асобных выпадках адноўлены ў выбарчых правох асобнымі пастановамі Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР пры ўмове, калі гэтыя асобы займаюцца цяпер вытворчаю і грамадзкакарыснаю працаю і даказалі сваю лёйяльнасьць у дачыненьні Савецкай улады.

45. Асобы, пазбаўленыя выбарчага права па належнасьці да клясы эксплёататараў і гандляроў (абшарнікі, буржуазія, асобы, якія належаць да служыцеляў рэлігійных культаў (п.п. „а" і „б" арт. 32), пры ўмове, калі яны ў працягу ня меней пяці год займаюцца вытворчай грамадзка-карыснай працай і даказалі сваю лёйяльнасьць да Савецкай улады, могуць быць адноўлены ў выбарчых правох, па пастановах акруговых выбарчых камісій, зацьверджаных акруговымі выканаўчымі камітэтамі.

46. Асобы, якія ўключаюцца па пастановах выбарчых камісій у сьпісы пазбаўленых выбарчага права, могуць абскарадзіць гэтыя пастановы ў працягу тыдня з дню апублікаваньня сьпісу.

47. Скаргі падаюцца грамадзянамі ў зазначаны ў папярэднім артыкуле час тэй выбарчай камісіі, якая саставіла сьпіс.

48. Выбарчая камісія, атрымаўшы скаргу, павінна ў працягу трох дзён пасьля палучэньня пераслаць яе са сваім заключэньнем вышэйшай выбарчай камісіі.

49. Скаргі на пастановы сельскіх, местачковых і гарадзкіх (неакруговых гарадоў) выбарчых камісій, паступіўшыя ў раённую выбарчую камісію, разглядаюцца ў працягу трох дзён. Раённая выбарчая камісія, калі скарга здавальняецца, адсылае яе са сваім рашэньнем сельскай, местачковай або гарадзкой (неакруговага гораду) выбарчай камісіі для абвяшчэньня скаргніку. Калі раённая выбарчая камісія адмаўляе скаргніку, то скарга перасылаецца акруговай выбарчай камісіі, якая ў той жа самы час, што і раённая, павінна разглядзець скаргу і прыняць рашэньне: або аб зацьверджаньні пастановы ніжэйшай камісіі, або аб задаваленьні скаргі. Пастанова акруговай выбарчай камісіі паведамляецца адпаведнай выбарчай камісіі для абвяшчэньня скаргніку.

50. Скаргі грамадзян акруговых гарадоў на пазбаўленьне выбарчых правоў гарадзкімі выбарчымі камісіямі разглядаюцца ў працягу тыдня акруговымі выбарчымі камісіямі.

51. Пасьля сканчэньня работ выбарчых камісій пытаньні па скаргах асоб, пазбаўленых выбарчага права, вырашаюцца адпаведнымі саветамі і выканаўчымі камітэтамі.

## VI. АБ ВЫБАРЧЫХ СХОДАХ.

52. Кожны выбаршчык мае права зьдзейсьніць сваё актыўнае выбарчае права ў саветы толькі адзін раз ў дадзеную выбарчую кампанію.

53. Выбары членаў саветаў праводзяцца на выбарчых сходах.

54. Выбарчыя сходы склікаюцца выбарчай камісіяй або яе ўпаўнаважаным. Аб дні і месцы склiку сходу выбаршчыкі паведамляюцца не пазьней, як за пяць дзён да выбараў імяннымі позвамі, якія расылаюцца выбарчымі камісіямі на грунце сьпісаў выбаршчыкаў, складаемых у парадку артыкулаў 35—39 гэтай інструкцыі.

55. У гарадох і фабрычна-заводзкіх паселішчах выбарчыя сходы праводзяцца на вытворчых або прафэсыянальных адзінках (прадпрыёмствах, установах і прафэсыянальных саюзах).

Грамадзяне, якія не працуюць на прадпрыемствах і неарганізаваны ў прафэсыянальныя саюзы, як: саматужнікі, хатнія гаспадыні, ізвозчыкі і г. д., прымаюць удзел у выбарах супольна з астатнімі выбаршчыкамі на вытворчых, або прафэсыянальных сходах ці па тэрыторыяльных адзінках (раёнах, вучастках і г. д.).

56. Выбары ў сельскія саветы праводзяцца па асобных паселішчах пры наяўнасьці ў іх ня менш 200 жыхароў. Пры меншай колькасьці насяленьня асобныя паселішчы яднаюцца для выбараў аднаго члена савету. Выбаршчыкі хутаране і адрубшчыкі для выбараў далучаюцца да бліжэйшага паселішча, якое ўваходзіць у раён выбіраемага сельсавету.

57. Выбарчы сход лічыцца правамоцным для правядзеньня выбараў у тым выпадку, калі з усяго ліку выбаршчыкаў даннага выбарчага вучастку ці пункту зьявілася на сход ня менш 35 проц.

выбаршчыкаў у сельскіх мясцовасьцях і мястэчках і ня менш 50 проц. у гарадох.

58. Выбарчыя сходы адчыняюцца асобай, упаўнаважанай для гэтага выбарчай камісіяй, і вядуцца выбіраемым у складзе трох чалавек прэзыдыумам пад старшынством упаўнаважанага выбарчай камісіі.

59. Па адчыненьні выбарчага сходу старшыня павінен:

а) азнаёміць сабраўшыхся з парадкам выбараў;

б) агаласіць лік выбаршчыкаў і лік прыбыўшых на выбары;

в) агаласіць сьпісы кандыдатаў, а таксама імя і прозьвішча асобных кандыдатаў, выстаўленых як да выбарчага сходу, гэтак і на самым выбарчым сходзе, з паказаньнем, кім прапанованы гэтыя сьпісы і асобныя кандыдатуры.

60. Галасаваньне на выбарах робіцца або па сьпісах, або па асобных кандыдатурах па пастанове выбарчага сходу.

*Увага* 1. Выбарчыя камісіі і іх упаўнаважаныя ня маюць права ад сябе вылучаць і прапанаваць выбаршчыкам ні асобных кандыдатаў, ні кандыдацкіх сьпіскаў.

*Увага* 2. Кандыдацкія сьпісы, альбо асобныя кандыдатуры могуць прапанавацца як грамадзкімі, партыйнымі і прафэсыянальнымі арганізацыямі, так і асобнымі грамадзянамі, як на самым выбарчым сходзе, так і апублікоўваюцца да выбарчага сходу праз друк, альбо шляхам вывешваньня. Галасаваньне па сьпісах не адхіляе магчымасьці адводу асобных кандыдатаў, зьмешчаных у сьпісах.

61. Выбары праводзяцца адкрытым галасаваньнем.

62. Выбранымі ў члены саветаў лічацца асобы, якія атрымалі пры галасаваньні простую большасьць галасоў выбаршчыкаў, прысутнічаўшых на данным выбарчым сходзе.

63. Выбарчыя сходы, апрача дэпутатаў, выбіраюць асобна і кандыдатаў да іх з такім разьлікам, каб агульны лік кандыдатаў не перавышаў аднэй трэцяй часткі ліку дэпутатаў, выбіраемых у данны савет.

64. Аб ходзе выбарчага сходу прэзыдыум апошняга складае і падпісвае пратакол.

65. Усе заявы і скаргі на правядзеньне выбараў падаюцца ў працягу сямі дзён з моманту сканчэньня выбараў у пісьмовай або вуснай форме адпаведнай выбарчай камісіі, якая павінна ў працягу 3-х дзён пераслаць іх са сваім тлумачэньнем вышэйшай выбарчай камісіі.

Вышэйшая выбарчая камісія павінна разглядзець гэтыя скаргі і заявы ў працягу тыдня з дня паступленьня.

66. Прычынай для адмены выбараў зьяўляецца парушэньне Канстытуцыі Саюзу ССР і БССР, а таксама гэтай інструкцыі, прычым аб адмене выбараў абвяшчаецца для агульнага ведама або шляхам публікацыі ў мясцовай прэсе, або на сходах выбаршчыкаў.

67. Адмена выбараў праводзіцца цалкам у дачыненьні ўсяго складу членаў савету або часьцінна ў дачыненьні асобных членаў савету па асобных выбарчых вучастках.

68. У выпадку адмены выбараў, новыя выбары праводзяцца паводле парадку, устаноўленага гэтай інструкцыяй.

69. Для правядзеньня новых выбараў назначаецца новы склад адпаведнай выбарчай камісіі.

70. Перавыбіраемы сельскі савет захоўвае свае поўнамоцтвы да сканчэньня выбараў новага савету. Новы савет абавязан сабрацца ў працягу 2-х дзён з дня сканчэньня выбараў і прыступіць да выпаўненьня сваіх абавязкаў.

## VII. АБ СКЛІКАНЬНІ ЗЬЕЗДАЎ САВЕТАЎ.

71. Зьезды саветаў склікаюцца адпаведнымі выканаўчымі камітэтамі паводле парадку, устаноўленага законадаўствам БССР.

72. Для праверкі правільнасьці выбараў на зьезды і іх паўнамоцтваў, зьездамі саветаў выбіраюцца мандатныя камісіі.

73. Зьезды саветаў па дакладах мандатных камісій выносяць пастановы аб правільнасьці праведзеных выбараў на зьезды і правамоцнасьці дэлегатаў.

74. Зьезды саветаў могуць выбіраць у склад сваіх прэзыдыумаў, сваіх выканаўчых камітэтаў, а таксама сваімі прадстаўнікамі на вышэйшыя зьезды саветаў ня толькі членаў гэтых зьездаў, але і, наогул, усіх грамадзян, якія карыстаюцца выбарчым правам, незалежна ад месца іх пражываньня або работы.

75. У час работ зьезду выканаўчым органам улады застаецца адпаведны выканаўчы камітэт ранейшага складу, дзейнасьць якога спыняецца толькі пасьля скліка([нья] першага (не пазьней двох дзён пасьля выбараў) пасяджэньня выканаучага камітэту новага складу.

76. Члены перавыбіраемага выканаўчага камітэту, якія не зьяўляюцца дэлегатамі зьезду, карыстаюцца правам дарадчага голасу на зьездзе.

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР **А. Чарвякоў.**

Сэкратар Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР **З. Чарнушэвіч.**

13 лістапада 1926 г.
г. Менск.

---

## 2. Пастанова Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР

### АБ ЗАЦЬВЕРДЖАНЬНІ ІНСТРУКЦЫІ АБ ПАРАДКУ ВЫБАРАЎ СЕЛЬСКІХ, МЕСТАЧКОВЫХ і РАЁННЫХ РЭВІЗІЙНЫХ КАМІСІЙ.

Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР пастаноўляе:

У дапаўненьне да „інструкцыі аб выбарах у саветы“ за 13 лістапада 1926 г. зацьвердзіць „інструкцыю аб парадку выбараў сельскіх, местачковых і раённых рэвізійных Камісій“.

## Інструкцыя аб парадку выбараў Сельскіх, Местачковых і Раённных Рэвізійных Камісій.

1. Сельскія і местачковыя рэвізійныя камісіі выбіраюцца адначасна з выбарамі сельскіх і местачковых саветаў і на тых-жа выбарчых сходах у складзе 3-х членаў і 2-х кандыдатаў да іх.

*Увага.* У тых паселішчах, дзе колькасьць выбарчых вучасткаў перавышае лік членаў рэвізійных камісій і кандыдатаў



да іх, парадак выбараў апошніх устанаўляецца вышэйстаячымі выбарчымі камісіямі.

2. Старшыня, намесьнік старшыні, члены і кандыдаты сельскіх і местачковых саветаў, а таксама і сэкратар могуць быць выбраны ў склад рэвізійных камісіі, не раней, як праз год з часу астаўленьня імі вышэйпамянёных пасад.

3. Раённыя рэвізійныя камісіі выбіраюцца адначасна з выбарамі Раённага Выканаўчага Камітэту—Раённымі Зьездамі Саветаў у складзе 3-х членаў і 2-х кандыдатаў да іх.

4. Старшыня, намесьнік старшыні, члены, кандыдаты і сэкратар раённага выканаўчага камітэту, загадчыкі часьцямі раённага выканаўчага камітэту і начальнікі ўпраў раённае міліцыі, могуць быць выбраны ў склад рэвізійных камісій не раней, як праз год з часу астаўленьня імі вышэйпамянёных пасад.

5. Рэвізійныя камісіі выбіраюцца асобным ад выбараў у члены і кандыдаты саветаў або выканаўчага камітэту галасаваньнем.

6. Рэвізійныя камісіі дзейнічаюць на падставе палажэньняў аб іх, зьмешчаных у Зборы Законаў і Загадаў БССР за 1926 год № 6, арт. 20.

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР **А. Чарвякоў.**

Сэкратар Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР **З. Чарнушэвіч.**

27 лістапада 1926 г.
г. Менск.

---

## 3. Пастанова Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР

### АБ МЕРАПРЫЕМСТВАХ ДЛЯ ПРАВЯДЗЕНЬНЯ З ПОСЬПЕХАМ УСЕСАЮЗНАГА ПЕРАПІСУ НАСЯЛЕНЬНЯ НА ТЭРЫТОРЫІ БССР.

На падставе пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў СССР за 3-га верасьня 1926 г. „Аб правядзеньні ў 1926 годзе ўсесаюзнага перапісу насяленьня“ (З. З. СССР за 1926 г. № 59, арт. 438), Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў БССР пастанаўляюць:

1. Правядзеньне ўсесаюзнага перапісу ў БССР ускладаецца на Цэнтральную Статыстычную Управу БССР і на падпарадкаваныя ёй органы на мясцох у тэрміны, устаноўленыя Цэнтральнай Статыстычнай Управай СССР (крытычны дзень перапісу 17 сьнежня 1926 г.).

2. Абавязаць акруговыя, раённыя выканаўчыя камітэты і сельскія саветы ўсімі спосабамі дапамагаць правядзеньню ўсесаюзнага перапісу насяленьня на падпарадкаванай ім тэрыторыі, у паасобку:

а) даваць часовыя памяшканьні для работ, зьвязаных з падрыхтоўкаю і правядзеньнем перапісу, захаваньнем матар'ялаў і для камандыраваных на работы па перапісу супрацоўнікаў;

б) устанавіць і падтрымоўваць на ўвесь час перапісу пастаянную паштовую, тэлефонную і гужавую сувязь паміж кіруючым перапісным пэрсаналем для сваячаснай перадачы і перасылкі ўсякіх загадаў, паведамленьняў і дастаўкі розных матар‘ялаў;

в) забясьпечыць перапіс па заяўках і па ўмовах з органамі, праводзячымі перапіс на данай тэрыторыі, патрэбным кадрам работнікаў; для гэтага павінен быць вылучаны адпаведны лік супрацоўнікаў з падпарадкаваных ім установ, звольніўшы іх ад беспасрэдных абавязкаў і захаваўшы за імі ўстаноўленую заработную плату на тэрмін з 12 па 31 сьнежня 1926 году.

3. Ускласьці на акруговыя выканаўчыя камітэты выданьне пастаноў, абавязваючых домакіраўніцтвы і домаўласьнікаў у гарадох і ў мястэчках складаць сьпісы кватэр з паказаньнем ліку жыхароў і падаваць гэтыя сьпісы рэгістратарам пры правядзеньні перапісу.

4. Старшыні акруговых і раённых выканаўчых камітэтаў сваім асабістым распараджэньнем павінны зьнішчаць усе перашкоды для правядзеньня з посьпехам і для сваячаснага выкананьня перапісу.

5. Для хуткага правядзеньня ўсіх мерапрыемстваў і для ўвязкі дзейнасьці паасобных ведамстваў і ўстаноў па дапамозе правядзеньню перапісу ўтварыць ва ўсіх акругах і ў раёнах (да 10 сьнежня г. г.) камісіі дапамогі правядзеньню ўсесаюзнага перапісу насяленьня ў складзе старшынь выканаўчых камітэтаў, прадстаўнікоў прафэсіянальных арганізацый і загадчыкаў мясцовых статыстычных органаў.

6. Даручыць акруговым і раённым выканаўчым камітэтам правесьці з удзелам камісій дапамогі і мясцовых органаў ЦСУ агітацыйную кампанію па падрыхтоўцы і па азнаямленьні з мэтамі і задачамі ўсесаюзнага перапісу насяленьня і з парадкам яго правядзеньня.

7. Правядзеньне перапісу ў інтэрнатах, мясцох зьняволеньня, больніцах, дамох адпачынку, дзіцячых установах інтэрнацкага тыпу і інш. ускласьці на адміністрацыю памянёных устаноў, якая вылучае для гэтага патрэбны пэрсональ. Парадак перапісу ў зазначаных установах вызначаецца статыстычнымі органамі па згодзе з адпаведнымі ўстановамі.

8. Даручыць Народнаму Камісарыяту Асьветы БССР для забесьпячэньня перапісу патрэбным кадрам работнікаў устанавіць зімовыя вакацыі для школ Галоўсацвыху з 14 сьнежня 1926 году па 2 студзеня 1927 году.

9. Для сваячаснага правядзеньня перапісу абавязаць сельскія саветы, на тэрмін перапісу насяленьня, дапамагаць пэрсаналю, які прымае ўдзел у перапісу ў атрыманьні перавозных сродкаў па прынятай таксе аплаты.

10. Абавязаць усіх грамадзян, знаходзячыхся на тэрыторыі БССР, даваць рэгістратарам патрэбныя зьвесткі па ўсіх пытаньнях перапісу. Асобы, якія ўхіляюцца ад дачы зьвестак, прыцягваюцца да адказнасьці ў адміністрацыйным парадку, як за невыкананьне загадаў органаў улады.

11. Забараніць скарыстаньне адказаў грамадзян на пытаньні, запісанныя ў формулярах перапісу, для якіх бы то ні было іншых мэт, апрача статыстычных табліц.

12. Ня браць з платы, якая выдаецца часовым работнікам па перапісу, налічэньняў на сацыяльнае страхаваньне і ўтрыманьне мясцовых камітэтаў статыстычных органаў.

13. Даць Цэнтральнай Статыстычнай Управе БССР права выдаваць дадатковыя інструкцыі і тлумачэньні для разьвіцьця гэтае пастановы.

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэту БССР **А. Чарвякоў.**

Нам. Старшыні Савету Народных Камісараў БССР **М. Карклін.**

Сэкратар Цэнтральнага Выканаўчага
Камітэту БССР **З. Чарнушэвіч.**

10 лістапада 1926 г.

---

## 4. Пастанова Эканамічнае Нарады пры Савеце Народных Камісараў БССР

АБ ПАРАДКУ ЗДАЧЫ Ў АРЭНДУ МЛЫНОЎ.

На падставе пастановы Савету Працы і Абароны за 10-га верасьня 1925 г. (пр. № 273) аб парадку здачы ў арэнду млыноў, Эканамічная Нарада пастанаўляе:

1. Абавязаць дзяржаўныя арганізацыі даваць мясцовым органам Народнага Камісарыяту Гандлю папярэднюю заяўку аб кожным млыне, прызначаным да здачы ў арэнду.

2. Мясцовым органам Народнага Камісарыяту Гандлю даецца права забараняць, з санкцыі адпаведнага Акруговага Выканаўчага Камітэту, здачу ў арэнду памянёных млыноў, дзейнасьць якіх не выклікаецца патрэбай забесьпячэньня мясцовага насяленьня, а такsама і ўмовамі рэгуляваньня загатовак збожжа і збыту.

*Увага.* Калі ўласьнік млыну не атрымае на працягу 2-х тыдняў распараджэньня органаў Народнага Камісарыяту Гандлю аб устрыманьні ад здачы ў арэнду млыну, уласьніку даецца права здаць млын з таргоў.

3. Для абмежаваньня здачы ў арэнду млыноў прыватным асобам, дзяржаўныя арганізацыі павінны пры здачы млыну ў арэнду кіравацца наступнымі палажэньнямі:

а) даць перавагу на заарандаваньне млыноў дзяржаўным і каапэрацыйным арганізацыям і толькі пры адсутнасьці іх здаваць млыны прыватным асобам;

б) прыватным асобам здаваць ў арэнду галоўным чынам такія млыны, якія патрабуюць капітальнага рамонту з ускладаньнем на арандатараў па ўмовах абавязкаў зрабіць рамонт ў вызначаны пэрыяд;

в) абмежаваць тэрміны здачы ў арэнду гандлёвых і паўгандлёвых млыноў прыватным асобам, па магчымасьці на меншы тэрмін (так, ня больш як на 5 гадоў) і даць арандатару права перадаваць ў субарэнду толькі з санкцыі мясцовага органу Народнага Камісарыяту Гандлю.

4. Народнаму Камісарыяту Гандлю БССР на працягу 2 тыдняў даручаецца выдаць адпаведную Інструкцыю аб парадку правядзеньня ў жыцьцё гэтае пастановы.

Старшыня Эканамічнае Нарады БССР **М. Карклін.**

Адказны Сэкратар **В. Крывіцкі.**

6 лістапада 1926 г.
г. Менск.

## 5. Пастанова Эканамічнае Нарады пры Савеце Народных Камісараў БССР

### АБ АБАВЯЗКОВАЙ ЗАСОЛЦЫ СКУР У РАЗЬНІЦАХ.

Бяручы пад ўвагу, што спроба абавязковай засолкі скур па г. г. Менску і Віцебску сябе апраўдала, Эканамічная Нарада пастанаўляе:

1. Пашырыць абавязковую засолку скур на ўсе разьніцы, якія знаходзяцца на абшары БССР.

2. На падставе гэтае пастановы і ў разьвіцьцё Правіл аб парадку адчыненьня і ўтрыманьня разьніц і аб вэтэрынарна-санітарным наглядзе за імі за 11-га мая 1926 г. (Бюлетэнь СНК БССР 1926 г. № 9), а таксама Правіл вэтэрынарна-санітарнага агляду забойнае жывёлы, скарыстаньня і забракоўкі мясных прадуктаў за 6 ліпеня 1926 г. (Бюлетэнь СНК БССР 1926 г. № 10)—скуры буйнае рагатае жывёлы, зарэзанае ў разьніцы, калі яны не зьнішчаны паводле арт. 20 памянёных Правіл за 6-га ліпеня 1926 г., ня могуць вывозіцца з разьніцы ў парным відзе, а павінны засольвацца на засолачных аддзяленьнях (пунктах) разьніцы.

*Увага.* Дзяржаўныя і каапэрацыйныя загатоўшчыкі скуранос сырызны а таксама „Белмясгандаль“ маюць права належачую ім скураную сырызну (ад уласнага забою або купленага ў разьніцы) вывозіць з разьніцы ў парным відзе для засолкі на сваіх складах, паколькі гэтыя склады спэцыяльна прыстасаваны для гэтай мэты і задавальняюць вымаганьням вэтэрынарна-санітарных правіл, выдадзеных Вэтэрынарнаю Упраўаю Народнага Камісарыята Земляробства і Народным Камісарыятам Аховы Здароўя.

3. Для засолкі скур ў разьніцах павінны быць утвораны засолачныя пункты, абсталяваныя паводле вымаганьняў санітарнае тэхнікі.

4. Плата за засолку скур устанаўляецца Народным Камісарыятам Гандлю.

5. Усе пастановы Акруговых Выканаўчых Камітэтаў, выдадзеныя па пытаньні аб засолцы ў разьніцах скур, трацяць, з выданьнем гэтае пастановы, сваю сілу.

6. Даручыць Народнаму Камісарыяту Гандлю, Народнаму Камісарыяту Земляробства, Народнаму Камісарыяту Аховы Здароўя і Народнаму Камісарыяту Унутраных Спраў распрацаваць на працягу 2-х тыдняў інструкцыю для разьвіцьця гэтае пастановы.

Старшыня Эканамічнае Нарады БССР **М. Карклін**.

Адказны Сэкратар **В. Крывіцкі**.

18 лістапада 1926 г.
г. Менск.

---

## 6. Пастанова Народных Камісарыятаў Юстыцыі, Унутраных Спраў і Грашовых Спраў БССР

### АБ ПАРАДКУ ЗАХАВАНЬНЯ І СКАРЫСТАНЬНЯ КАНФІСКАВАНАГА ПАЛЯЎНІЧАГА АРУЖЖА І АГНЕПРЫПАСАЎ.

У адмену свае пастановы за 25 ліпеня 1924 г. (З. Зак. 1924 г. № 14, арт. 130) Народныя Камісарыяты Юстыцыі, Унутраных Спраў і Грашовых Спраў БССР пастанаўляюць:

1. У пратаколах аб адабраньні паляўнічага аружжа павінны быць падробна запісаны асаблівыя адзнакі яго (сыстэма і нумар стрэльбы, калібар, фірма і г. д.). Паляўнічае аружжа і агнепрыпасы да яго, далучаныя да спраў, якія праводзяцца ў народных судох і ў адміністрацыйных органах, у якасьці рэчавых довадаў, павінны быць запісаны ў асобную кнігу з паказаньнем тых самых зьвестак.

2. Па ўступленьні ў законную сілу прыгавару ці вызначэньня суду, або пастановы выканаўчага камітэту аб канфіскацыі паляўнічага аружжа і агнепрыпасаў, яны павінны зараз-жа быць перааданы для рэалізацыі раённай ці акруговай міліцыі ў залежнасьці ад таго месца, дзе знаходзяцца канфіскаваныя прадметы.

3. Ацэнка і рэалізацыя канфіскаваных аружжа і агнепрыпасаў робяцца камісіяй наступнага складу: начальнік міліцыі (акруговай ці раённай), прадстаўнік Беларускага Саюзу Паляўнічых па выбару апошняга (у акрузе) ці раённы ўпаўнаважаны гэтага Саюзу і прадстаўнік мясцовага (акруговавга ці раённага) грашовага аддзелу. Арыгіналы актаў ацэнкі і продажу далучаюцца да спраў міліцыі, а копіі падаюцца ў мясцовы грашовы аддзел.

4. Для рэалізацыі канфіскаванае аружжа і агнепрыпасы прадаюцца без таргоў па ацэнцы арганізацыям і асобам, якія па закону маюць права хаваць і карыстацца імі, пры чым перавага ва ўсіх выпадках даецца мясцовым аддзелам Беларускага Саюзу Паляўнічых.

5. Выручаныя ад рэалізацыі аружжа і агнепрыпасаў грашовыя сумы ўносяцца ў касы Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў у даход дзяржавы па каштарысу Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў у тыднёвы тэрмін ад дня продажу.

6. Канфіскаванае аружжа і агнепрыпасы, якія прызнаны камісіяй за нягодныя да рэалізацыі і ня маюць каштоўнасьці, падлягаць зьнішчэньню (п. 3 арт. 69 К.-П. К.).

7. Старадаўнія экзэмпляры паляўнічага аружжа, якія зьяўляюцца музэйнай каштоўнасьцю, падлягаюць перадачы бліжэйшаму музэю (пастанова СНК СССР аб парадку скарыстаньня канфіскаванае маёмасьці, якая агалошана ў Зб. Зак. СССР—1925 году № 17, арт. 526).

Народны Камісар Юстыцыі БССР **М. Сегаль.**

Народны Камісар Унутраных Спраў **А. Сташэўскі.**

Час. вык. аб. Народн. Камісара Грашовых Спраў **Кардашэнка.**

25 лістапада 1926 г.

## 7. Абежнік Народнага Камісарыяту Земляробства БССР

АБ ДАЧЫ ПОЎНЫХ ЗЬВЕСТАК АБ ЛЬГОТАХ СЕМ'ЯМ ЧЫРВОНААРМЕЙЦАЎ І БЯДНЕЙШАМУ СЯЛЯНСТВУ.

*Усім Акруговым Зямельным Аддзелам.*

Акруговыя Зямельныя Аддзелы, даючы адказ на даручэньне Народнага Камісарыяту Земляробства даць зьвесткі аб льготах, якія былі дадзены сем'ям чырвонаармейцаў, а таксама і бяднейшаму сялянству, прыслалі адны — больш-менш поўныя зьвесткі, другія — частку патрэбных зьвестак, а некаторыя паведамілі, што льготы даваліся, але зьвестак не сабіралася. Некаторыя Акруговыя Зямельныя Аддзелы зьвесткі аб льготах сем'ям чырвонаармейцаў і бяднейшаму сялянству зьмяшалі ў кучу.

З гэтага відаць, што Акруговыя Зямельныя Аддзелы не вядуць рэгістрацыі гэтых льгот, а таксама не вядзецца яна і ў раённых зямельных часьцях, тады, як усім дадзеным льготам, як сем'ям чырвонаармейцаў, так і бяднейшаму сялянству, павінен весьціся самы пунктуальны падлік, каб у любы час можна было атрымаць патрэбныя зьвесткі ў лічбах—колькі сямей і якія льготы атрымалі.

Народны Камісарыят Земляробства, зьвяртаючы на гэта ўвагу, прапануе, пачынаючы з 1-го кастрычніка г.г., пачаць весьці самы пунктуальны падлік дадзеных льгот як сем'ям чырвонаармейцаў, так і бяднейшему сялянству, асобна тым і другім. Зьвесткі трэба зьбіраць як можна поўныя. Напрыклад, павінна быць паказана:

1. Аб льготах пры водпуску лесу—колькі сямей атрымалі лясны матар'ял: бясплатна, льготна, у крэдыт, асобна па кожнаму віду гэтых водпускаў, колькі бярвеньняў, альбо сажняў дроў адпушчана па кожнаму з гэтых відаў водпуску, якую суму гэта льгота складае;

2. Аб льготах пры земляўпарадкаваньні:

а) колькі двароў надзелена зямлей і агульная плошча адведзенай зямлі;

б) колькі двароў атрымалі прырэзку і плошча прырэзкі;

в) колькі двароў і на якую суму атрымалі грашовую льготу;

г) колькі двароў і на якую суму зусім пазбаўлены ад платы;

д) колькі двароў і на якую суму атрымалі крэдыт;

е) колькі двароў і на якую суму атрымалі дапамогу без звароту;

3. Аб льготах пры спабжэньні насеньнем—колькі сямей, колькі пудоў і якога насеньня атрымалі бясплатна, льготна і ў крэдыт (асобна па кожнаму віду льгот);

4. Колькі сямей атрымалі ў часовае карыстаньне сельска-гаспадарчых снасьцей і інвэнтару (на які час, якія снасьці): а) бясплатна, б) льготна;

5. Колькі сямей атрымалі коней: а) бясплатна; б) льготна;

6. Колькі сямей атрымалі сельска-гаспадарчых снасьцей: а) у крэдыт; б) льготна; в) бясплатна.

Адным словам, усім льготам павінен весьціся пунктуальны падлік і аб іх павінны давацца па асобных патрабаваньнях дакладныя зьвесткі.

Народны Камісарыят Земляробства папераджае, што невыкананьне гэтага выклікае аддачу вінаватых пад суд.

Народны Камісар Земляробства БССР **З. Прышчэпаў.**

Нач. Адміністрацыйна-Фінансавага Кіраўніцтва НКЗ **Найхін.**

18 лістапада 1926 г.
№ 10.

## 8. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

АБ ПАРАДКУ ЗАМЯШЧЭНЬНЯ ПАСАД, ЗВОЛЬНЕНЫХ ПА ВЫПАДКУ ПРЫЗЫВУ ГРАМАДЗЯН У РАБОЧА-СЯЛЯНСКУЮ ЧЫРВОНУЮ АРМІЮ І ФЛЁТ.

Для дапаўненьня пастановы свае за 24 кастрычніка 1925 г. (Бюлетэнь СНК № 7) выданае на падставе арт. 9 пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР за 10 красавіка, Народны Камісарыят Працы БССР ПАСТАНАЎЛЯЕ:

1. Усе грамадзянскія ўстановы, прадпрыемствы і гаспадаркі, як дзяржаўныя, так грамадзкія, каапэрацыйныя і прыватныя, павінны замяшчаць пасады пайшоўшых у РСЧА і РСЧФ безработнымі дэмабілізаванымі чырвонаармейцамі зараз-жа, як толькі пойдуць узятыя ў Чырвоную Армію, з тым, каб гэтае замяшчэньне было скончана не пазьней месячнага тэрміну пасьля іх прызыву.

2. Пасады, памянёныя ў п. 1 гэтае пастановы, замяшчаюцца незалежна ад прыняцьця на работу асоб каманднага складу, якія прысылаюцца асобнымі камісіямі паводле пастановы СНК СССР за 14 верасьня 1926 г. (Збор Зак. СССР 1926 г. № 63, арт. 475).

3. Вольныя пасады і месцы работы, якія займаліся ўзятымі па прызыву у РСЧА і РСЧФ, могуць быць скасаваны са згоды на гэта Акруговага Аддзелу (Камэры Інспэкцыі) Працы.

4. Аддзелы (Камэры Інспэкцыі) Працы пасылаюць на работу дэмабілізаваных чырвонаармейцаў на вольныя месцы ў адпаведнасьці з лікам і з кваліфікацыяю прызваных у РСЧА І РСЧФ.

5. На Аддзелы (Камэры Інспэкцыі) Працы ўскладаецца кантроль за дакладным выкананьнем гэтае пастановы; вінаватыя ў парушэньні яе прыцягваюцца да судовае адказнасьці паводле арт. 132 Крымінальнага Кодэксу.

Народны Камісар Працы БССР **Ерафееў.**

Заг. Аддзелу Рынку Працы НКП **Мышалаў.**

Кіраўнік Спраў НКП **Акулаў.**

18 лістапада 1926 г.
№ 10.

---

Узгоднены з ЦРПСБ.

## Абежнік Народнага Камісарыяту Працы і Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

АБ ТЭРМІНАХ РАЗГЛЯДУ ПРАЦОЎНЫХ СПРЭЧАК У ПАСРЭДНІЦКА-МІРАВЫХ ОРГАНАХ, У РАСЦЭНАЧНА-КАНФЛІКТНЫХ КАМІСІЯХ, У АСОБНЫХ СЭСІЯХ ПА ПРАЦОЎНЫХ СПРАВАХ І У НАРОДНЫХ СУДОХ.

*Усім Інспэкцыям (Аддзелам) Працы, усім Народным Судом (Асобным Сэсіям па працоўных справах).*

Паводле маючыхся зьвестак, працоўныя спрэчкі, якія паступаюць для разгляду ў пасрэдніцка-міравыя органы, Расцэначна-Канфліктныя Камісіі і ў асобныя сэсіі па працоўных справах, вельмі ўга застаюцца неразгледжанымі, што з аднаго боку выклікае скар-

гі працоўных, а з другога боку—часта выклікае лішнія выдаткі установу (напрыклад, у выпадку аднаўленьня на пасадзе і аплаты за прагул.).

На падставе памянёнага вышэй, Народны Камісарыят Працы і Народны Камісарыят Юстыцыі, пасьля узгадненьня з ЦРПСБ, устанаўляюць наступны парадак разгляду працоўных спрэчак:

а) ў міравых камэрах і ў пасрэдніцкіх судох спрэчкі павінны разглядацца не пазьней, як праз тыдзень ад дня іх паступленьня ў Камэру Інспэкцыі (Аддзел) Працы для разгляду ў міравым або пасрэдніцкім парадку;

б) пры разглядзе працоўных спрэчак у Расцэначна-Канфліктнай Камісіі трэба прытрымоўвацца арт. 9 Палажэньня аб РКК, разглядаць такія на працягу 24 гадзін ад моманту іх атрыманьня ў РКК;

в) ў асобных сэсіях па працоўных справах грамадзянскія справы трэба разьвязваць ў парадку п. „а“ абежніку Народнага Камісарыяту Юстыцыі за 18 лістапада № 94.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Алесін.**

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **Нямытых.**

Кіраўнік Спраў НКП БССР **Акулаў.**

23-га лістапада 1926 г.
№ 12.

Узгоднена з ЦСУ.

---

## 11. Пастанова Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя БССР

### АБ АБАВЯЗКОВЫМ ПАВЕДАМЛЕНЬНІ АБ ВОСТРА-ЗАРАЗНЫХ ХВАРОБАХ.

Усякі мэдыцынскі работнік павінен на працягу 24 гадзін паведаміць адпаведны Акруговы Аддзел Аховы Здароўя аб кожнай востра-заразнай хваробе ў яго практыцы, паводле п. п. 2 і 3 гэтай пастановы.

2. Абавязкова-трэба паведамляць аб наступных хваробах: брушны тыфус, паратыфус, тыфус-сыпняк, узваротны тыфус, мелітококцыя, перамяжаючаяся трасца, малярыйная кахэксыя, воспа натуральная, адзёр, скарлятына, коклюш, дыфтэрыт, грып, міліарная трасца, завушніца, пашасная азіяцкая халера, халерападобны энтэрыт, крываўка, пошасны гастроэнтрыт, чума, жоўтая трасца, жэлчна-геморогічны спірохэтоз, проказа, рожа, востры поліоміэліт, летаргічны энцэфаліт, менінгококавы эфенінгіт, іншыя пошасныя і эндэмічныя хваробы.

3. Рэгістрацыйныя карткі для паведамленьняў аб востра-заразных хваробах выдаюцца мэдыцынскім работнікам бясплатна адпаведнымі акруговымі Статыстычнымі Бюро.

4. Вінаватыя ў невыкананьні гэтае пастановы прыцягваюцца да адказнасьці паводле арт. 216 Крымінальнага Кодэксу.

Народны Камісар Аховы Здароўя **М. Барсукоў.**

Загадчык Санітарна-Эпідэміолегічнага Аддзелу **Вядзёрнікаў.**

---

Выдана на падставе Пастановы Эканам. Нарады БССР за 6 лістапада 1926 г.

## 11. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Замежнага і Унутранага Гандлю БССР

АБ ПАРАДКУ ЗДАЧЫ Ў АРЭНДУ ДЗЯРЖАЎНЫХ МЛЫНОЎ.

*Усім Акруговым Камісіям Гандлю.*

1. Дзяржаўныя арганізацыі, мяркуючыя здаць ў арэнду таварныя і паўтаварныя млыны, якія знаходзяцца ў іх веданьні, абавязаны спачатку падаць адпаведнай Акруговай Камісіі Гандлю заяўку з паказаньнем наступных зьвестак:

а) месцазнаходжаньня млыну і назва апошняга;
б) становішча будынку млыну;
в) род рухавіка і яго моцнасьць;
г) становішча рухавіка (% зношанасьці);
д) становішча іншага абсталяваньня;
е) наяўнасьць ачышчальных машын і іх становішча;
ж) род памолу (па паасобных сартох);
з) прапускная здольнасьць (пры двух зьменах) па паасобных сартох;
и) фактычная нагрузка млыну за апошні гадовы пэрыяд (сярэдняя ў суткі);
к) чыё збожжа перапрацоўвае (уласай загатоўкі, грамадзянскае, зьмешанае і якіх іменна памольцаў);
л) кім мельніца эксплёатуецца, калі знаходзіцца ў арэндзе— паказаць у каго іменна і ўмовы арэнды (разьмер арэнднае платы, абавязацельства рамонту і ступень выкананьня апошняга);
м) агульнае значэньне млыну для даннага раёну, як ў сенсе абслугоўваньня апошняга гатовай прадукцыяй так і памолам збожжа спажыўцоў, ў прыватнасьці—сялян;
н) наяўнасьць жадаючых ўзяць ў арэнду азначаны млын і іх наймен‌ьне.

2. Пры разглядзе Акруговымі Камісіямі Гандлю умоў, вызначаючых мэтазгоднасьць здачы млыну ў арэнду Акруговым Камісіям Гандлю неабходна прымаць пад ўвагу:

а) магчымасьць разьвіцьця здаваемым ў арэнду млынам загатоўчых апэрацый, якія могуць зрабіць уплыў на ход хлебазагатовак дзяржаўных загатоўшчыкаў,

б) неабходнасьць дзейнасьці даннага млыну для абслугоўваньня ваколічнага сялянскага насяленьня, а таксама магчымасьць задаваленьня сваей прадукцыяй патрэбнасьці мясцовага рынку, так роўна і магчымасьць задаваленьня гэтага рынку другімі блізка знаходзячыміся млынамі.

3. Кіруючыся паказанымі ў п. п. 1 і 2 зьвесткамі, непасрэдна дабытымі Акруговай Камісіяй Гандлю, апошняя вырашае пытаньне аб мэтазгоднасьці здачы млына ў арэнду тэй ці іншай арганізацыі або прыватнай асобе ці аб мэтазгоднасьці кансэрвіраваньня апошняга, падаўшы сваё рашэньне на санкцыю адпаведнага Акруговага Выканаўчага Камітэту.

*Увага* 1. У выпадку разнагалосься паміж Акруговай Камісіяй Гандлю і Акруговым Выканаўчым Камітэтам пры вырашэньні таго ці іншага пытаньня, Акруговай Камісіі Гандлю

належыць у тыдневы тэрмін паведаміць аб гэтым Народны Камісарыят Гандлю БССР, з прадстаўленьнем належных матар'ялаў, пасьля разгледжаньня якіх апошнім пытаньне будзе пастаўлена на вырашэньне Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР.

*Увага* 2. Пытаньне аб здачы ў арэнду млыну павінна быць вырашана Акруговай Камісіяй Гандлю ў працягу не пазьней двох тыдняў з дня прадстаўленьня заяўкі уласьнікам млыну. У выпадку неатрыманьня апошнім ў працягу гэтага тэрміну ад Акруговае Камісіі Гандалю распараджэньня, уласьніку млыну даецца права здаць яго з таргоў.

4. У мэтах абмежаваньня здачы ў арэнду млыноў прыватным асобам, уласьнікі апошніх павінны пры здачы іх ў арэнду кіравацца наступнымі палажэньнямі;

а) пераважнае права на заарэндаваньне млыноў даць дзяржаўным і каапэрацыйным выпpraджальнікам і толькі пры адсутнасьці апошніх здаваць млыны ў арэнду прыватным асобам;

б) прыватным асобам здаваць у арэнду млыны, галоўным чынам, тыя, якія патрабуюць капітальнага рамонту, з ускладаньнем на арандатараў абавязанасьці правядзеньня рамонту ў пэўны тэрмін, аб чым павінна быць падрабязна агаворана ў падпісваемых дагаворах з далучэньнем да дагавору пераліку належачых да правядзеньня капітальных і рамонтных работ і каштарысаў;

в) тэрміны здачы ў арэнду млыноў прыватным асобам павінны быць па магчымасьці абмяжаванымі ва ўсякім выпадку ня звыш 5 год (у залежнасьці ад разьмеру затрат на рамонт або пераабсталяваньне млыну), з дачаю арандатару права перадачы млыну ў субарэнду толькі з санкцыі Акруговае Камісіі Гандлю;

г) пры вырашэньні пытаньня аб здачы млыну ў субарэнду неабходна назіраць за тым, каб дзяржаўныя і каапэрацыйныя арганізацыі, ўзяўшыя ў арэнду той або іншы млын, не перадавалі б потым яго ў субарэнду прыватным асобам. Што тычыцца перадачы ў субарэнду млыноў, якія заарандаваны прыватнымі асобамі, то гэта можна дазваляць толькі ў тых выпадках, калі перадача ў субарэнду робіцца апошнімі дзяржаўным органам або каапэрацыйным арганізацыям, з папярэдняе згоды уласьніка млыну.

5, Здача ў арэнду млыноў робіцца з таргоў, кіруючыся існуючымі па гэты прадмэт законапалажэньнямі, шырока абвясьціўшы аб гэтым дзяржаўныя і каапэрацыйныя арганізацыі, прычым Акруговым Камісіям Гандлю належыць асобна наглядаць за тым, каб дадзенае гэтаю пастановай пераважнае права на арэнду млыноў дзяржаўным і каапэрацыйным арганізацыям у сапраўднасьці імі выкарыстоўвалася згодна п. 4 гэтае інструкцыі.

6. Штомесячна (на 1-ы дзень месяца) падаваць Народнаму Камісарыяту Гандлю БССР зьвесткі аб разгледжаных ў працягу справаздачнага пэрыяду пытаньнях аб здачы ў арэнду млыноў па разасланай форме.

Нам. Народнага Камісара
Замежнага і Унутранага Гандлю БССР **М. Піскуноў.**

Нач. Управы Рэгуляваньня **Л. Кізілла**.

За Заг. Хлебафуражным Аддзелам **Л. Галкін**

29 лістапада 19 6 г.

Зацьверджана пастановай Эканамічнае Нарады пры Савеце Народных Камісараў БССР за 11 лістапада 1926 г.

## 12. Інструкцыя Кіраўніцтва Дзяржаўнага Страхаваньня БССР

АБ ПАРАДКУ ДАЧЫ НАСЯЛЕНЬНЮ БССР ЛЬГОТ ПА АБАВЯЗКОВЫМ АКЛАДНЫМ СТРАХАВАНЬНІ Ў 1926/1927 г.

На падставе артыкулу 7 пастановы Савету Працы і Абароны Саюзу ССР за 14 верасьня 1926 году аб абавязковым акладным страхаваньні ў сельскіх мясцовасьцях на 1926—1927 г. і артыкулу 10 пастановы С. П. А. за 14 верасьня 1926 г. аб абавязковым акладным страхаваньні ў гарадох на 1926—1927 г. („Известия ЦИК Союза ССР" № 217 за 21 верасьня), устанаўляюцца наступныя нормы і парадак дачы льгот па абавязковым акладным страхаваньні ў 1926—1927 годзе.

### А. СЕЛЬСКАЕ СТРАХАВАНЬНЕ.

§ 1. У мясцовасьцях, дзе праводзіцца абавязковае акладное сельскае страхаваньне, льготы даюцца:

а) бяднейшым або зруйнаваным стыхійнымі няшчасьцямі гаспадаркам;

б) перасяленцам і расьсяленцам;

в) сем'ям асоб, узятых у Чырвоную Армію і Чырвоны Флёт і

г) дабравольным пажарным арганізацыям.

§ 2. З бяднейшага насяленьня і гаспадарак, зруйнаваных стыхійнымі няшчасьцямі, зусім не бяруцца акладныя страхавыя плацяжы альбо бяруцца ня больш як палавіна.

*Увага.* Пад стыхійнымі няшчасьцямі, што даюць права на льготу, разумеюцца: пажар, градабіцьце,ураган, разводзьдзе, гібель пасеваў і сенажацей, пошасьць жывёлы.

§ 3. У такім самым разьмеры (§ 2) даюцца льготы паасобным гаспадаркам працоўных землякарыстальнікаў і іх аб'яднаньням (арцелям, таварыствам, камунам), якія перасяляюцца і расьсяляюцца паводле Правілаў аб земляўпарадкаваньні і перасяленьні на новыя мясцы ў тым выпадку, калі гэтымі гаспадаркамі пастаўлены на новаадведзеных ім дзялянках будынкі, патрэбныя для сталага вядзеньня гаспадаркі.

§ 4. Сем'ям асоб, узятых у Чырвоную Армію і Чырвоны Флёт, страхавыя плацяжы ўсіх відаў акладнога страхаваньня зьмяншаюцца на адну трэцюю частку.

*Увага* 1. Да асоб узятых у Чырвоную Армію і Чырвоны Флёт, на сем'і якіх пашыраюцца льготы па акладным страхаваньню, паводле артыкулаў 3, 9 і ўвагі да арт. 9 Кодэксу Законаў аб льготах і перавагах вайскоўцаў, залічаюцца:

а) чырвнаармейцы, адбываючыя абавязковую вайсковую службу ца прызыву (але не чырвонаармейцы, адбыўшыя і застаўшыеся на вайсковай службе дабравольна).

б) ахвотнікі, якія паступілі на вайсковую службу да прызыву іх равесьнікаў і

в) малодшы камандны склад адбываючы абавязковую вайсковую службу па прызыву (але ня звыш-тэрмінова-служачыя).

*Увага* 2. Пад сем'ямі асоб, адбываючых вайсковую службу па прызыву разумеюцца родна-працоўныя аб'яднаньні асоб рознага сваяцтва, якія жывуць сумесна і вядуць адну гаспадарку альбо жывуць на агульныя сродкі. Да гэтых-жа сем'яў належаць асобы, увайшоўшыя ў сем'і пасьля шлюбу, а таксама прымакі. У склад сялянскай сям'і ўключаюцца таксама асобы, якія часова знаходзяцца дзе-небудзь на заработках, але ня выключаныя паводле закону са складу двара (арт. 5 Зям. Кодэксу і ўвагі да яго).

*Увага* 3. Калі сем'і, маючыя права на льготу чырвонаармейцаў, уваходзяць членам ў склад якой-небудзь калектыўнае гаспадаркі (арцелі, камуны і інш.) і свае асобнае гаспадаркі ня маюць, то калектыўнай гаспадарцы павінна быць зроблена зьніжэньне на адну трэцюю частку акладу страхавых плацяжоў, прыпадаючых на долю кожнай, маючай права на льготу чырвонаармейскай сям'і, уваходзячай у склад калектыўнае гаспадаркі.

*Увага* 4. Льготы даюцца таксама сем'ям асоб прызваных у Чырвоную Армію ўвосень 1926 году.

§ 5. Службовыя будынкі (дэпо і інш.) дабравольных пажарных арганізацый, якія існуюць на падставе зацьверджаных у законным парадку статутаў, страхуюцца бясплатна, ў межах акладных норм.

§ 6. Калі за пералічанымі ў §§ 2 і 3 гэтае інструкцыі гаспадаркамі, маючымі права на льготу, лічыцца нядоімка акладных страхавых плацяжоў, то апошняя зьмяншаецца ў такім самым размеры, як аклад (уся альбо на палавіну).

§ 7. Калі сем'ям чырвонаармейцаў, па стану іх гаспадарак, трэба будзе зьменшыць страхавыя плацяжы на больш, як гэта прадугледжана ў § 4 гэтае інструкцыі, або трэба будзе зусім ня браць акладных страхавых плацяжоў, на падставе льгот бяднейшаму насяленьню, то гэтае права даецца ім таксама як і іншым грамадзянам, пры гэтым у такіх выпадках большая льгота касуе меншую.

§ 8. Сем'і чырвонаармейцаў маюць права толькі на льготу па акладу. Нядоімкі мінулых гадоў у парадку памянёных льгот ня могуць зьмяншацца.

§ 9. Для атрыманьня права на льготу знаходжаньне члена сям'і на вайсковай службе па прызыву павінна быць пацьверджана звычайным пасьведчаньнем (зьмест якога запісаны ў загадзе РВС СССР, № 614), якое выдаецца на месцы службы чырвонаармейца.

§ 10. Льготы сем'ям чырвонаармейцаў павінны давацца пры самым зборы акладу, без падачы страхавальнікам аб гэтым асобнага хадайніцтва.

§ 11. У выпадку страты ў застрахаванай маемасьці зьнятыя ў парадку льгот акладныя страхавыя плацяжы не вылічаюцца з страхавое платы.

§ 12. Калі асобамі, маючымі права на льготу, страхавыя плацяжы будуць унесяны да дачы ім льгот, то атрыманыя пасьля дачы льгот лішкі ўнесеных збораў, павінны быць зьвернуты страхавальнікам, або, з іх на гэта згоды, залічаны ў рахунак плацяжоў будучага году.

§ 13. Агульная сума льгот па кожнай акрузе не павінна перавышаць дзесяці процантаў налічанага на 1926-27 г. па гэтай акрузе

акладу страхавых плацяжоў па ўсіх відах абавязковага акладнога страхаваньня.

*Увага.* У гэты фонд ўваходзіць нядоімка, якая будзе зьнімацца разам з акладам.

§ 14. За рахунак паказанага ў папярэднім § фонду льгот, да пачатку збораў страхавых плацяжоў на 1926/1927 г., звальняюцца бяднейшыя і пацярпеўшыя ад стыхійных няшчасьцяў гаспадаркі ў колькасьці 10% застрахаваных у кожнай акрузе двароў. Рэшта сумы льгот прызначаецца для дачы льгот сем'ям чырвонаармейцаў і пажарным арганізацыям, а таксама перасяленцам і расьсяленцам.

*Увага.* Сем'і чырвонаармейцаў і пажарныя арганізацыі павінны абавязкова атрымаць льготы.

§ 15. Акруговы фонд льгот разьмяркоўваецца па раёнах асобнымі акруговымі камісіямі у складзе старшыні—прадстаўніка акруговага выканаўчага камітэту, і членаў—загадчыка акруговага страхавога агэнцтва і прадстаўнікоў па адным ад: плянавае камісіі, фінансавага аддзелу, зямельнага аддзелу, пажарнага пад'аддзелу, сялянскага камітэту таварыства ўзаемадапамогі, а таксама ад акруговае сельска-гаспадарчае і спажывецкае каапэрацыі.

§ 16. Льготы паміж уваходзячымі ў склад раёну сельскімі саветамі разьмяркоўваюцца раённымі камісіямі ў скадзе старшыні—старшыні альбо члена раённага выканаўчага камітэту і членаў—страхавога агэнта, загадчыка раённае часьці камунальнае гаспадаркі, начальніка мясцовае пажарнае дружыны, старшыні раённага камітэту таварыства сялянскай ўзаемадапамогі, вэтэрынарнага доктара (або фэльчара) і агранома.

§ 17. Льготы паасобным грамадзянам у пасяленьнях даюцца належнымі сельскімі саветамі, разам з ўпаўнаважанымі, якія выбіраюцца для гэтае мэты агульнымі сходамі грамадзян кожнага пасяленьня ўваходзячага ў склад гэтага сельскага савету, і пры ўдзеле прадстаўніка сялянскага камітэту таварыства ўзаемадапамогі, а ў мястэчках—местачковымі саветамі з удзелам прадстаўніка мясцовага камітэту ўзаемадапамогі.

§ 18. Пастановы акруговых і раённых камісій лічацца канчатковымі. На дзеяньні сельскіх і местачковых саветаў па разьмяркаваньні льгот могуць падавацца скаргі ў раённыя выканаўчыя камітэты на працягу тыдня ад дня абвяшчэньня сьпісаў.

§ 19. Разьмяркаваньне агульнага фонду і льгот другой чаргі павінна быць скончана: акруговымі камісіямі—не пазьней 15-га лістапада 1926 г., раённымі камісіямі—не пазьней 1-га сьнежня 1926 г., а сельскімі і местачковымі саветамі—не пазьней 31-га сьнежня 1926 г.

§ 20. Сьпісы асоб, атрымаўшых льготы, складаюцца сельскімі саветамі ў двух паасобніках, з якіх адзін паасобнік перадаецца ў мясцовае агэнцтва Управы Дзяржаўнага Страхаваньня, а другі—па абвяшчэньні на сходзе вывешваецца ў сельскім савеце.

## Б. АКЛАДНАЕ СТРАХАВАНЬНЕ Ў ГАРАДОХ.

§ 21. Для гарадзкога насяленьня на 1926-1927 г. льготы ўстанаўляюцца двух відаў: першая льгота—зьмяншэньне тарыфу для некаторых катэгорый страхавальнікаў і другая—звальненьне ад узносу ўсяго плацяжу або часткі яго бяднейшага насяленьня і дабра-

вольных пажарных арганізацый і зьмяншэньне плацяжоў сем'ям асоб, узятых у Чырвоную Армію і Чырвоны Флёт.

*Увага.* Другая льгота даецца незалежна ад першай. Асоба дастаўшая першую льготу, мае права ў належных выпадках атрымаць таксама і другую льготу.

§ 22. Першая льгота—зьмяншэньне тарыфу ў разьмеры 20% па страхаваньні будынкаў ад агню і пасеваў ад градабіцьця (пры ўмове, што будынкі ня здадзены ў арэндпае або якое-небудзь другое карыстаньне іншым асобам); 10 проц.—па страхаваньні быдла ад пошасьці і 5 проц.—па страхаваньні коней ад сьмерці даецца: а) для членаў прафэсыянальных саюзаў і наогул для рабочых і служачых у наймах, б) для саматужнікаў (адзіночак), в) для асоб, якія карыстаюцца сацыяльным забесьпячэньнем; г) для членаў дабравольных пажарных арганізацый; д) для ўсякіх аб'яднаньняў, якія складаюцца выключна з асоб памянёных вышэй катэгорый, пасьля прад'яўленьня гэтымі асобамі адпаведных дакумэнтаў аб належнасьці да тае, або іншае з пералічаных катэгорый.

§ 23. Агульная сума другой льготы, прызначанай для бяднейшага насяленьня, пажарных арганізацый і сям'яў чырвонаармейцаў устанаўляецца ў кожным горадзе асобна ў межах 5% наліченага на гэты горад акладу страхавых плацяжоў па кожным відзе акладнога страхаваньня, без залічэньня ў яе нядоімкі.

§ 24. Гэта льгота даецца:

а) у першаю чаргу сем'ям асоб, узятых у Чырвоную Армію і Чырвоны Флёт;

б) у другую чаргу дабравольным пажарным установам і

в) у трэцюю чаргу—бяднейшаму насяленьню і гаспадаркам, пацярпеўшым ад стыхійных няшчасьцяў.

§ 25. Сем'і чырвонаармейцаў карыстаюцца зьмяншэньнем на такіх самых умовах, як і па акладным сельскім страхаваньні (§§ 4, 7—10 гэтае інструкцыі).

§ 26. Службовыя будынкі і штатныя коні дабравольных пажарных арганізацый, якія арганізацыі працуюць паводле зацьверджаных статутаў, страхуюцца бясплатна па акладных нормах.

§ 27. З бяднейшае часткі насяленьня, а таксама з гаспадарак, пацярпеўшых ад стыхійных няшчасьцяў, па пастанове асобнае камісіі (§ 30) не бярэцца увесь або частка акладу страхавых плацяжоў па акладному страхаваньню іх маемасьці.

§ 28. У кожным паасобным выпадку, разам з акладам у той самай долі павінна быць зьнята і нядоімка, калі такая лічыцца.

*Увага.* Зьнятая нядоімка залічаецца ў агульны фонд льгот (§ 23 гэтае інструкцыі).

§ 29. Сем'ям чырвонаармейцаў і пажарным арганізацыям льгота даецца пры самым зборы плацяжоў, а ўсе іншыя грамадзяне, жадаючыя атрымаць льготу, павінны падаць аб гэтым заяву у мясцовы орган Управы Дзяржаўнага Страхаваньня. Хадайніцтвы аб дачы льгот павінны быць пацьверджаны: для членаў прафэсыянальных саюзаў—адпаведнымі прафэсыянальнымі арганізацыямі, для асоб, якія карыстаюцца сацыяльным забесьпячэньнем—установамі сацыяльнага забесьпячэньня, а для іншых грамадзян—квартальнымі камітэтамі, таварыствамі ўзаемадапамогі, або іншымі роўназначнымі установамі ці органамі міліцыі. Тэрміны падачы заяў вызначаюцца і абвяшчаюцца камісіямі (§ 30).

§ 30. Хадайніцтвы разглядаюцца і зацьвярджаюцца камісіяй у складзе старшыні—прадстаўніка мясцовага выканаўчага камітэту, і членаў—прадстаўніка Ўправы Дзярж. Страх., Фінансавага Аддзелу і Камітэту Таварыства Ўзаемадапамогі. Пастановы камісіі лічацца канчатковымі. Зацьверджаныя сьпісы асоб, з якіх зьняты плацяжы, павінны быць вывешаны ў канторах агэнцтваў не пазьней 15-га сьнежня 1926 г.

§ 31. Нескарыстаны 5% льготны фонд па асобных гарадох з прычыны адсутнасьці кантынгэнту асоб, маючых права на льготы, складае рэспубліканскі фонд для разьмеркаваньня паміж насяленьнем іншых гарадоў, патрабуючым льготы.

---

## 13. Пытаньні і адказы.

Запытаньне Абалецкага Сельскага Савету Коханаўскага раёну Аршанскае Акругі за 6 чэрвеня г. г.

ПЫТАНЬНЕ **126**. Хто ў першую чаргу надзяляецца зямлёй пры земляўпарадкаваньні—бядняцкія гаспадаркі зусім ня маючыя зямлі, ці гандляры і арандатары млыноў, маючыя вучасткі зямлі ад 1/2 да 2 дзесяцін?

АДКАЗ. На падставе арт. 10 Зямельнага Кодэксу пры земляўпарадкавньні безьзямельнае працоўнае земляробчае насяленьне надзяляецца зямлёй з складу дзяржаўнага запаснага фонду раней, чым надзяляецца такое-ж малазямельнае насяленьне.

Калі асноўным заняткам удзельніка земляўпарадкаваньня зьяўляецца саматужная або рамясловая прамысловасьць, а таксама дробны гандаль, то пры земляўпарадкаваньні яму пакідаецца зямля, якая знаходзілася ў яго карыстаньні ў якасьці сядзібнага вучастку, які адводзіцца по магчымасьці ў межах сядзібных зямель сяленьня, а пры адсутнасьці ў саматужніка зямлі ён надзяляецца сядзібай на падставе арт. 19 інструкцыі Народн. Камісарыяту Земляробства аб парадку правядзеньня работ па разьмеркаваньню запаснага фонду за 15 красавіка 1925 г.

З другога боку, і працоўныя земляробчыя гаспадаркі могуць мець падсобныя заняткі, як дробны гандаль, рамясловыя і саматужныя промыслы, прычым гэтыя заняткі не паралізуюць іх праў, як працоўных землякарыстальнікаў. Выцякае гэта з пастановы ЦВК і СНК СССР за 3 жніўня 1926 г. аб абкладаньні адзіным сельска-гаспадарчым падаткам (Зб. Зак. 1926 г. № 52, арт. 38) працоўных земляробчых гаспадарак, займаючыхся промысламі ў сельскіх мясцовасьцях без наёмных рабочых, а таксама і з іх дапамогай у колькасьці ня больш трох. Такім-жа чынам, Зямельны Кодэкс не залічае ў лік падстаў для нядачы зямлі працоўнай земляробчай гаспадарцы падсобнае заняцьце яе гандлем або промыслам. Пагэтаму, памянёныя гаспадаркі маюць права на надзяленьне іх зямлёй у парадку ўстаноўленай чаргі.

### Запытаньні Менскай Акруговай Зямельнай Камісіі за 11 і 16 чэрвеня г. г. №№ 6112 і 6960:

ПЫТАНЬНЕ **127**. Як рабіць у тых выпадках, калі адказчык не выплачвае дабравольна прысуджаных з яго грошай, а ў замен іх у гаспадарцы няма такое маемасьці, якую можна было-б перадаць?

АДКАЗ. У тых выпадках, калі па рашэньню зямельнае камісіі, з адказчыка падлягаюць спагнаньню грашовыя сумы, а не маемасьць у натуры, прычым з усяе апісанае маемасьці даўжніка нічога прадаць нельга, згодна арт. арт. 245—248 інструкцыі Нар. Кам. Земляробства за 11 сьнежня 1925 г., выканавец рашэньня складае аб гэтым акт, які пасылаецца ў зямельную камісію для далучэньня да адпаведнае зямельнае справы. Спагнаньнік мае права прасіць зямельную камісію аб аднаўленьні выканаўчых дзеяньняў, калі ў даўжніка да сканчэньня тэрміну іскавой даўнасьці зьявіцца маемасьць, якая можа быць прадана.

ПЫТАНЬНЕ **128**. Ці павінны запісвацца ў кнізе, якая прызначана ў Раённым Выканаўчым Камітэце для рэгістрацыі дагавароў працоўнай арэнды зямлі, зьдзелкі аб здачы ў арэнду школьных вучасткаў?

АДКАЗ. Зьдзелкі на здачу ў арэнду школьных вучасткаў не падлягаюць запісваньню ў кнігу, рэгістрацыі дагавароў,бо паказаная кніга заведзена толькі для адзнакі ў ёй дагавораў працоўнай арэнды зямлі на падставе зацьверджаных 2 ліпеня 1925 г. Народным Камісарыятам Земляробства правіл (Бюлетэнь СНК 1925 г. № 2, стар. 44).

На падставе абежніка Нар. Кам. Земляробства за 18 жніўня 1926 г. за № 21618 аб землях спэцыяльнага прызначэньня (Бюлетэнь СНК 1926 г. № 11, стар. 41), школьны вучастак зьяўляецца дзяржаўнаю зямельнаю маемасьцю, якая адводзіцца для зямельнага забесьпячэньня вучэбнае ўстановы, а не для карыстаньня ім у мэтах атрыманьня камэрцыйнага прыбытку. Пагэтаму, экcплёатацыя школьнага вучастку шляхам аддачы яго у арэнду, наогул, не дазваляецца.

### Атрыманыя Нар. Камісарыятам Земляробства ад Нар. Камісарыяту Юстыцыі пры адносіне апошняга за 9 жніўня г. г. № 4588 запытаньні Койданаўскага Раён. Выкан. Камітэту за 11 чэрвеня г. г. № 3814:

ПЫТАНЬНЕ **129**. Як трэба рабіць з тымі буйнымі землякарыстальнікамі, якія робяць захопы зямельных лішкаў, адабраных на падставе судовых рашэньняў зямельных камісій з іх карыстаньня ў парадку абрэзкі і перададзеных сельсаветамі ў часовае карыстаньне малазямельных грамадзян?

АДКАЗ. Калі па ўвайшоўшаму ў законную сілу рашэньню зямельнае камісіі, вынесенаму на падставе абежніка Нар. Кам. Земляробства за 17 студзеня 1923 г. № 2, вызначана колькасьць зямлі, накідаемай буйнай гаспадарцы ў парадку абрэзкі, і рашэньне гэта прыведзена ў выкананьне сельсаветам з перадачай зямельных лішкаў, маючым патрэбу ў зямлі грамадзянам, то карыстаньне апошніх гэтымі абрэзкамі зьяўляецца законным і працоўным, а таму і бестэрміновым на падставе 12 і 124 арт. арт. Зям. Код. Парушанае землякарыстаньне

гэтых грамадзян падлягае аднаўленьню па іх хадайніцтву ў парадку арт. 25 і ўвагі 3-яй да арт. 199 Зямельн. Код., а ў выпадку самавольнага захвату зямлі вінаватыя прыцягваюцца да адказнасьці па 103 арт. Крымін. Кодэксу.

ПЫТАНЬНЕ **130**. Як рабіць з тымі буйнымі гаспадаркамі, якія да гэтага часу не падпадалі абрэзцы ў судовым парадку, а земляўпарадкавальная абрэзка іх ня можа быць у бліжэйшы час зроблена з-за недахвату каморнікаў? Між тым насяленьне, якое мае патрэбу ў зямлі, закідае вышэйшыя інстанцыі сваімі скаргамі.

АДКАЗ. Інструкцыя Нар. Камісарыяту Земляробства за 15 красавіка 1925 г. аб парадку правядзеньня работ па разьмеркаваньні запаснага фонду давала сельскім саветам права выконваць ня дужа складныя справы па абрэзцы буйных гаспадарак і разьмяркаваньню атрыманага фонду сярод тых, хто меў у гэтым патрэбу, але з абавязковым захаваньнем пры гэтым парадку вытвару гэтых спраў, г. з. з складаньнем земляўпарадкавальнага проэкту, паведамленьнем яго старанам па гэтай справе і грамадзе і накіраваньнем потым усяе справы на разгляд зямельнай камісіі. Практыка, аднак-жа, паказала, што гэтая работа для сельскіх саветаў зьявілася непасільнай. З прычыны гэтага абежнікамі Нар. Камісарыяту Земляробства за 19 сьнежня 1925 г. № 37 і 22 ліпеня 1926 г. № 18 правядзеньне ўсіх без выключэньня работ па землянадзяленьню, незалежна ад іх характару і разьмераў, ускладзена толькі на каморнікаў — земляўпарадчыкаў. У зьвязку з гэтым у буйных гаспадарках, якія да гэтага часу не падпадалі абрэзцы, могуць адбірацца лішкі зямлі толькі пры правядзеньні намечаных па пляну земляўпарадкавальных работ, калі яны не парушаюць устаноўляных Зямельным Кодэксам умоў працоўнага землякарыстаньня.

Запытаньні Аршанскае Акруговае Зямельнае Камісіі за 28 жніўня г. г. № 11193:

ПЫТАНЬНЕ **131**. Ці можа раённая зямельная камісія, прыстасавальна да арт. 204 Зямельнага Кодексу і арт. 210 Інструкцыі аб парадку правядзеньня спраў зямельнымі камісіямі, дапушчаць папярэдняе выкананьне па сваіх рашэньнях аб разьмеркаваньні быўшых лясных плошчаў, пералічаных з лясного фонду ў зямельны?

АДКАЗ. Адказ на гэтае пытаньне зьмешчаны ў адказе на пытаньне 99 (Бюлетэнь СНК № 10 (19) 1926 г., стар. 63).

ПЫТАНЬНЕ **132**. Ці можа быць падставаю для скасаваньня арэндных дагавораў на аброчныя артыкулы дзяржаўных маемасьцяй (сады і сенажаці) толькі тое, што яны выключаюцца з складу дзяржмаемасьцяй і падлягаюць разьмеркаваньню ў бестэрміновае працоўнае карыстаньне, калі догаворы гэтыя выконваюцца арандатарамі?.

АДКАЗ. Выключэньне садоў і сенажацяй з складу дзяржаўных зямельных маемасьцяй для разьмеркаваньня іх у сталае працоўнае карыстаньне не зьяўляецца само па сабе падставаю для скасаваньня зробленых ва ўстаноўленым парадку на паказаныя аброчныя артыкулы арэндых дагавораў. Калі ж гэтыя артыкулы ў парадку землянадзяленьня будуць дадзены зямельнымі органамі ў працоўнае

карыстаньне асобам, якія арандуюць гэтыя ўгодзьдзі, то чыннасьць арэнднага дагавору сама сабой спыняецца, бо па ўзаемнай згодзе контрагэнтаў дагавору (дзяржавы—у асобе зямельных органаў і арандатара) іх ранейшыя адносіны, вызначаўшыеся арэндным дагаворам, замяніліся новымі, якія рэгулююцца часткай I Зямельнага кодэксу „аб працоўным карыстаньні“.

Адказы на пытаньні 126—132 дадзены Асобнай Калегіяй Вышэйшага Кантролю пры Нар. Камісарыяце Земляробства БССР (журнал распарадчага паседжаньня АКВК за 11 кастрычніка г. г. № 17).

## Запытаньні Слуцкага Акруговага Зямельнага Аддзелу за 26 жніўня і 3 верасьня г. г. за №№ 8262 і 8546:

ПЫТАНЬНЕ **133**. У якім пэрсанальным складзе мае права земляўпарадкавальная ўстанова разглядаць пытаньні, прадугледжаныя арт. 164 Зямельнага Кодэксу, аб якой гаворыцца ў паказаным артыкуле?

АДКАЗ. Земляўпарадкавальныя ўстановы дзеляцца на: а) адміністрацыйна-тэхнічныя і б) земляўпарадкавальна-судовыя. Да адміністрацыйна-тэхнічных установаў прылічаюцца земляўпарадкавальныя часьці акруговых пад‘аддзелаў земляўпарадкаваньня, мэліарацыі і дзяржаўных зямельных маемасьцяй і аддзел земляўпарадкаваньня Кіраўмэліязему, а да земляўпарадкавальна-судовых—зямельныя камісіі і Асобная Калегія Вышэйшага Кантролю.

Прыём і разгляд заяў аб земляўпарадкаваньні, а таксама вырашэньне пытаньня аб тым, ці не супярэчыць патрабаваньням закону паднятае хадайніцтва аб земляўпарадкаваньні і ці зьяўляецца яно па гаспадарча-вытворчых меркаваньнях мэтазгодным, робяцца адміністрацыйна-тэхнічнымі земляўпарадкавальнымі ўстановамі. Скаргі на іх рашэньні па пытаньнях аб адмове ў земляўпарадкаваньні падаюцца ў наступныя вышэйшыя адміністрацыйна-тэхнічныя інстанцыі ў двохтыднёвы тэрмін з дня аб‘яўленьня рашэньня скаргніку.

У склад акруговае адміністрацыйна-тэхнічнае земляўпарадкавальнае ўстановы ўваходзяць загадчык пад‘аддзелу, акруговы земляўпарадчык і запрашаемыя на паседжаньне старшынёю адпаведныя спэцыялістыя ў залежнасьці ад характару разглядаемых спраў.

ПЫТАНЬНЕ **134**. У земляўпарадкавальнай практыцы бываюць выпадкі, калі пры падрыхтоўцы земляўпарадкавальных спраў у 1925 г. рашэньнямі зямельных камісій аб‘яднаны ў адну гаспадаркі, якія ў сапраўднасьці былі разьдзельнымі, але не аформілі сваіх разьдзелаў парадкам рэгістрацыі. Выкананьне зазначаных спраў робіцца ў бягучым годзе. Па апошняму-ж тлумачэньню Народнага Камісарыяту Земляробства ў правілах аб разьдзеле працоўных земляробчых гаспадарак, трэба прымаць пад увагу разьдзелы, хоць-бы яны і не былі зарэгістраваны, калі яны ў сапраўднасьці адбыліся да 7-га чэрвеня 1925 г. Як рабіць ў такіх выпадках?

АДКАЗ. Калі пры падрыхтоўцы земляўпарадкавальнае справы аб‘яднаны ў адну гаспадарку двары фактычна разьдзяліўшыеся да 7 чэрвеня 1925 г., якія разьдзелы, хоць-бы яны і не былі аформлены,

належыць ў гэты час лічыць законнымі, на падставе п. 3 пастановы Савету Народных Камісараў БССР за 10 красавіка 1925 г. аб спыненьні разьдзелаў сялянскіх гаспадарак (З. З. БССР № 24 1925 г., арт. 220), то пры складаньні, паводле 168 арт. Зямельнага Кодэксу, канчатковага праэкту земляўпарадкаваньня належыць, захоўваючы правы і законныя інтарэсы ўдзельнікаў земляўпарадкаваньня, уносіць адпаведныя сапраўднасьці зьмены ў складзе двароў у парадку праверкі пасямейных сьпіскаў на падставе пасьведчаньняў сельскага савету або актаў земляўпарадчыка аб тым, што данны двор разьдзяліўся фактычна да 7 чэрвеня 1925 г.

## Запытаньне Бабруйскай Акруговай Зямельнай Камісіі за 31 жніўня г. г. за № 6284:

ПЫТАНЬНЕ **135**. У якім парадку павінны раб'цца сысканьні арэндных плацяжоў па дагаворах на аддачу лясьніцтвамі ў часовае сельска-гаспадарчае карыстаньне падлеснай зямлі, калі грамадзяне, узяўшыя ў арэнду вырубкі, адмаўляюцца ад дабраахвотнай выплаты належачых з іх па дагавору плацяжоў?

АДКАЗ. Сыскваньне плацяжоў, абумоўленых дагаворамі на аддачу ў часовае сельска-гаспадарчае карыстаньне лясных палян і вырубак лясьніцтвам, калі азначаныя плацяжы не выплачваюцца ў тэрмін грамадзянамі, узяўшымі ў арэнду падлесныя землі, робяцца ў судовым парадку, бо бясспрэчны адміністрацыйны парадак не ўстаноўлен законам для такіх сыскваньняў. Толькі плацяжы па дагаворах аб арэндзе вучасткаў з складу дзяржаўных зямельных маемасьцяй сыскваюцца ў бясспрэчным адміністрацыйным парадку на падставе арт. 22 пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў за 29 жніўня 1924 г. аб парадку, умовах і тэрмінах скарыстаньня дзяржаўных маемасьцяй (З. З. БССР за 1925 г. № 1, арт.6).

Іскі аб сысканьні арэндных плацяжоў за здаваемыя ў часовае сельска-гаспадарчае карыстаньне вучасткі падлеснай зямлі не падсудны раённай зямельнай камісіі, бо апошняя на падставе арт. 37 Зямельнага Кодэксу разглядае ўсе спрэчкі, вынікаючыя з дагавораў аб арэндзе зямлі толькі працоўнага карыстаньня ў той час, як лясныя паляны і вырубкі ў межах лясных дач, згодна 138 арт. Зям. Код. зьяўляюцца землямі спэцыяльнага прызначэньня. Азначаныя іскі не падсудны, на падставе арт. 200 Зям. Код., і акруговай зямельнай камісіі, бо артыкул гэты вызначае падсуднасьць ей іскаў аб зямлі, а не аб арэндных плацяжох і пры гэтым толькі аб зямлі сельска-гаспадарчага прызначэньньня. Іскі-ж аб гарадзкой сядзібнай зямлі і аб зямлі спэцыяльнага прызначэньня не падсудны акруговай зямельнай камісіі.

Такім чынам, паскольку, на падставе правіл аб спэцыяльнай падсуднасьці, іскі аб сыскваньні арэнды за зямлю спэцыяльнага прызначэньня не падсудны зямельным камісіям, разгляд азначаных іскаў згодна правіл аб агульнай падсуднасьці павінен быць аднесен да кампэтэнцыі народнага суду.

## Запытаньні Барысаўскай Акруговай Зямельнай Камісіі за 6 верасьня г. г. № 14250:

ПЫТАНЬНЕ **136**. Якія зборы сыскваюцца пры рэгістрацыі раённымі выканаўчымі камітэтамі заключаемых працоўнымі землякарыс-

стальнікамі дагавораў аб продажу будынкаў для выкарыстаньня на месцы?

АДКАЗ. Зборы за рэгістрацыю раённымі выканаўчымі камітэтамі дагавароў, якія робяцца працоўнымі землякарыстальнікамі аб продажу будынкаў для выкарыстаньня іх на месцы не ўстаноўлены распараджэньнямі Ураду БССР (гл. пункт 2 абежніка Народн. Камісарыятаў Земляробства і Юстыцыі за 3 лістапада 1925 г. № 35 аб адчужэньні будынкаў і садоў, знаходзячыхся на землях працоўнага карыстаньня, артыкулы 3 і 6 Пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў за 5 сакавіка 1926 г. аб засьведчаньні раённымі выканаўчымі камітэтамі, местачковымі і сельскімі саветамі дагавароў і дакумэнтаў, § 32 інструкцыі Народных Камісарыятаў Юстыцыі, Унутраных Спраў і Земляробства аб засьведчаньні дагавароў і дакументаў—Бюлетэнь Савету Народных Камісараў за 1925 г. № 9, стар. 15, за 1926 г. № 3, стар. 5 і № 7, стар. 25).

ПЫТАНЬНЕ **137**. Ці падлягаюць аплаце запісы аб падзеле двароў пры рэгістрацыі натарыяльным, мясцовым і гэрбавым зборамі?

АДКАЗ. Аплата натарыяльнага і мясцовага збораў за рэгістрацыю раённымі выканаўчымі камітэтамі разьдзельных запісаў не ўстаноўлена. Гэрбавы збор пры гэтым не бярэцца, бо разьдзельныя запісы зьяўляюцца дакумэнтамі працоўнага землякарыстаньня.

ПЫТАНЬНЕ **138**. Ці падлягаюць дагаворы аб працоўнай арэндзе зямлі пры рэгістрацыі аплаце натарыяльным, мясцовым і гэрбавым зборам і ў якім разьмеры?

АДКАЗ. Пры рэгістрацыі раённым выканаўчым камітэтам дагавораў аб працоўнай арэндзе зямлі гэрбавы збор не бярэцца, згодна тлумачэньню Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР за 2 верасьня г. г. № 21605. Натарыяльны збор павінен пры гэтым зысквацца ў разьмеры 1/4 % з сумы дагавору, кошт якога не перавышае 500 руб. і 1/2 % з іншых дагавораў, згодна арт. арт. 3 і 6 Пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў за 5 сакавіка 1926 г. аб засьведчаньні раённымі выканаўчымі камітэтамі дагавораў і дакумэнтаў і арт. 10 таксы аплаты натарыяльных дзеяньняў (Бюлетэнь Савету Народных Камісараў 1926 г. № 3, стар. 5 і № 1 стар. 64). Права устанаўленьня надбавак да натарыяльнага збору ў даход мясцовых сродкаў дадзена мясцовым саветам артыкулам 37 часовага палажэньня аб мясцовых фінансах за 29 кастрычніка 1924 г. (Зб. З. СССР за 1924 г. № 22, арт. 199).

ПЫТАНЬНЕ **139**. Ці падлягае аплаце зборамі і якімі засьведчаньне сельскімі саветамі і раённымі выканаўчымі камітэтамі даверанасьцяй працоўных землякарыстальнікаў на вядзеньне спраў ў зямельных камісіях?

АДКАЗ. Засьведчаньне сельскімі і местачковымі саветамі запісваемых у рэестр даверанасьцяй, якія выдаюцца працоўнымі землякарыстальнікамі на вядзеньне спраў ў зямельных камісіях аплачваецца натарыяльным зборам ў разьмеры 1 руб., згодна арт. 1 і 6 Пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў за 5 сакавіка 1926 г., арт. 1 і 20 таксы аплаты натарыяльных дзеяньняў (З. З. БССР за 1926 г. № 12, арт. 45 і Бюлетэнь Савету

Народных Камісарау за 1926 г. № 1, стар. 63) да ўстанаўленьня асобнай таксы аплаты натарыяльных дзеяньняў, якія робяцца раённымі выканаўчымі камітэтамі і сельскімі саветамі.

Гэрбавым зборам паказаныя даверанасьці, як датычныя землякарыстаньня і земляўпарадкаваньня, не аплачваюцца.

Адказы на пытаньні 133—139 дадзены Асобнай Калегіяй Вышэйшага Кантролю пры Народным Камісарыяце Земляробства БССР (журнал распарадчага паседжаньня АКВК за 11-га кастрычніка г. г. № 18).

## Запытаньні Мсьціслаўскага Раённага Выканаўчага Камітэту за 11, 17 і 29 верасьня г. г. №№ 9559, 8564 і 9892:

ПЫТАНЬНЕ **140**. Ці павінна раён. зям. камісія прымаць да разгляду іск аб падзеле зямлі і маемасьці ад асобы, каторай падаваўся аднародны іск два ці тры гады таму назад, але ў хадайніцтве аб падзеле было адмоўлена? Апошні іск мае іншыя акалічнасьці, якія выклікаюць неабходнасьць падзелу. Акалічнасьці гэтыя выявіліся з бытавых умоў жыцьця.

АДКАЗ. Разгледжаны зямельнай камісіяй іск не падлягае нованому разгляду па хадайніцтву стараны, хоць бы апошняй і былі пададзены новыя доказы па справе, бо старана павінна была даць ўсе свае доказы пры першым разглядзе справы. Калі-ж першапачатковае рашэньне відочна не адпавядае асноўным палажэньням існуючага законадаўства, відочна няправільна, немэтазгодна, або супярэчыць фактычным акалічнасьцям справы, то нездаволеная рашэньнем старана мае права абскардзіць яго ў парадку нагляду ў Асобную Калегію Вышэйшага Кантролю. Нарэшце, калі акалічнасьці справы зусім зьмяніліся пасьля яе разгляду, выявіліся новыя падставы, якіх не было пры першапачатковым разглядзе іску, то магчыма падача новага іску па тэй-жа справе без адмены ранейшага рашэньня.

ПЫТАНЬНЕ 141. На падставе арт. 38 Палажэньня аб зямельных распарадках у гарадах БССР усе спрэчкі аб правох на землякарыстаньне ў сядзібнай мяжы вырашаюцца народным судом, а па-за межамі сядзібы—акруговаю зямельнаю камісіяй.

Якія-ж гарадзкія землі лічыць несядзібнымі і ці ўваходзяць у лік апошніх хутары за межамі гораду? Які зямельны суд вырашае спрэчкі аб гэтых землях?

АДКАЗ. У межах гораду знаходзяцца землі сядзібныя і несядзібныя. Склад сядзібных зямель вызначаецца: а) фактычна забудаванымі вучасткамі сумесна з землямі неабходнымі для абслугоўваньня гэтых вучасткаў—двор, гарод, сад пры доме і б) тымі пляцамі, якія ідуць нанова пад забудоўку. У склад несядзібных зямель уваходзяць: а) землі агульнага карыстаньня—пляцы, вуліцы, узьбярэжжы, дарогі, грамадзкія сады, скверы і месцы для звалак, б) гарадзкія лясы, тарпянішчы, каменаломні і в) землі сельска-гаспадарчага прызначэньня—пахаць, сенажаці, выганы, гароды і сады па-за сядзібнай мяжой гораду, але у граніцах агульнай гарадзкай мяжы.

Усе спрэчкі аб сядзібных землях і землях агульнага карыстаньня, знаходзячыхся ў сядзібнай мяжы гораду, падсудны народнаму суду. Спрэчкі аб землях сельска-гаспадарчага прызначэньня, знаходзячыхся за сядзібнай мяжой гораду, але ў агульнай мяжы гарад-

зкіх зямель, выращаюцца ў якасьці першай інстанцыі акруговай зямельнаю камісіяй, бо ўлада раён. вык. камітэту на гэтыя землі не пашыраецца. Спрэчкі-ж аб знаходзячыхся ў карыстаньні гараджан сельска-гаспадарчых землях, знаходзячыхся за агульнай гарадзкой мяжой, разглядаюцца раённаю зямельнай камісіяй па падставе 130 і 132 арт. арт. Зямельнага Кодэксу і арт. арт. 1, 8, 16, 19, 37 і 38 палажэньня аб зямельных распарадках у гарадох за 18 верасьня 1925 г. (З. З. БССР № 43, арт. 353).

ПЫТАНЬНЕ **142**. Ці дапушчаецца ў гаспадарцы, якая не падлягае драбленьню, падзел у натуры маемасьці агульнага карыстаньня—будынкаў, інвэнтару і інш., калі гаспадарка гэта маемасьцю гэтай забясьпечана выстарчальна, напр., мае 2 хаты, пару коней і 3 каровы на 5 дзесяцін зямлі, ці ў гэтым выпадку магчыма толькі выплата?

АДКАЗ. Адказ на гэта пытаньне знаходзіцца ў Бюлетэні СНК г. г. № 8 (17), стар. 25, у адказе на пытаньне 74.

У недрабімым двары не дазваляецца падзел у натуры маемасьці агульнага карыстаньня, бо будынкі, жывы і мёртвы інвэнтар, насеньне і іншая маемасьць агульнага карыстаньня прызначаюцца для вядзеньня сельскае гаспадаркі. Пагэтаму, з аднаго боку, немагчыма было-б дзяліць гэту маемасьць, калі сама гаспадарка прызнана недрабімай, а, з другога боку, гаспадарча-немэтазгодна выдаваць у натуры азначаную маемасьць членам двара, якія адыходзяць з гаспадаркі без зямлі, і, значыцца, не зьбіраюцца, наогул, займацца сельскаю гаспадаркою.

Толькі ў тым выпадку, калі выходзячыя з недрабімага двара яго члены надзяляюцца зямлей па падставе арт. 80 Зям. Код., магчым, згодна арт. 84 таго-ж Кодэксу, выдзел ім у натуры, па рашэньню Зямельнай Камісіі, належачай часьці маемасьці агульнага карыстаньня—будынкаў, інвэнтару, насеньня і інш., калі маемасьцю гэтай гаспадарка абцяжарана.

ПЫТАНЬНЕ **143**. Ці можа раённая зямельная камісія па іску аб падзеле недрабімае гаспадаркі прысудзіць істцу выплату без яго аб тым просьбы, ці ў гэтым выпадку трэба толькі адмовіць ў іску аб падзеле агульнае маемасьці ў натуры?

АДКАЗ. Адказ на гэта пытаньне знаходзіцца ў адказе на пытаньне 124 (Бюлетэнь Савету Народных Камісараў 1926 г. № 12 (21) стар. 56).

## Запытаньне Полацкае Акруговае Зямельнае Камісіі за 14 верасьня г. г. № 9074:

ПЫТАНЬНЕ **144**. Земляўпарадчы працэс па дачах разьмеркаваньня праводзіцца ў гэты час так: спачатку праводзіцца агульная падрыхтоўка па ўсёй дачы з складаньнем на яе папярэдняга праэкту, пасьля гэтага складаюцца міжпаселішчныя праэкты па дачы разьмеркаваньня, паказваюцца насяленьню, разглядаюцца ва ўстаноўленым парадку зямельнымі камісіямі і ідуць да выкананьня; пасьля гэтага складаюцца праэкты ўнутрыпаселішчнага разьмеркаваньня па кожнай зямельнай грамадзе ў паасобку, паказваюцца насяленьню і разглядаюцца зямельнай камісіяй.

Ня ясным прадстаўляецца афармленьне справы па дачы разьмеркаваньня ў парадку арт. 173 Зям. Код., галоўным чынам, у адносінах складзенага праэкту міжпаселішчнага разьмеркаваньня дачы, у якую

могуць ўвайсьці зямельныя грамады, вельмі мала між сабой зьвязаныя: адны з іх могуць не жадаць ўнутрыпаселішчнага землеўпарадкаваньня, іншыя—адмовіцца ад яго пасьля, нарэшце, зацягнуўшыеся спрэчкі па некаторых грамадах не дадуць ім магчымасьці перайсьці да карыстаньня ў новых межах, згодна праэкту. На падставе 173 арт. Зям. Кодэксу ўсякі правільна выкананы праэкт землеўпарадкаваньня канчаткова зацьвярджаецца акруговаю зямельнаю камісіяй. З прычыны гэтага зьяўляецца незразумелым, як рабіць ў гэтым выпадку з афармленьнем праэкту міжпаселішчнага разьмеркаваньня. Ня ясна таксама, ці зьяўляецца дача разьмеркаваньня аднэй землеўпарадчай справай з рознымі выканаўчымі праэктамі, або кожны з апошніх складае асобную землеўпарадчую справу?

АДКАЗ. Калі па агульнай дачы разьмеркаваньня складаюцца спачатку праэкты міжпаселішчнага землеўпарадкаваньня, а потым —унутрыпаселішчанага, то акруговая зямельная камісія не абавязана выносіць пастановы аб канчатковым зацьверджаньні выкананага праэкту міжпаселішчнага землеўпарадкаваньня, бо агульная колькасьць зямлі, паступіўшай у выніку землеўпарадкаваньня ў карыстаньне зямельнае грамады, будзе вызначана пры афармленьні выкананага праэкту ўнутрыпаселішчанага землеўпарадкаваньня.

Для таго, каб па паасобных зямельных грамадах не тармазілася ўнутрыпаселішчнае землеўпарадкаваньне, якое можа ў іх атрымаць неаднолькавы напрамак, трэба пры складаньні, у парадку 168 і 169 арт. Зям. Код., праэктаў унутрыпаселішчнага землеўпарадкаваньня па кожнай зямельнай грамадзе заводзіць асобную справу.

Запытаньне Калінінскай Акруговай Зямельнай Камісіі за 16 верасьня г.г. № 7804:

ПЫТАНЬНЕ **145**. Ці мае права Акруговая Зямельная Камісія разглядаць падсудныя ёй справы ў складзе двух зацьверджаных Акруговым Выканаўчым Камітэтам членаў камісіі без прадстаўніка ад Народнага Суду?

АДКАЗ. На падставе 196 арт. Зям. Кодэксу і арт. арт. 16 і 17 Інструкцыі зямельным камісіям аб парадку правядзеньня ў іх спраў, акруговая зямельная камісія разглядае падсудныя ей справы ў складзе старшыні або яго намесьніка і двух членаў або кандыдатаў да іх. Увесь склад зямельнай камісіі павінен быць зацьверджан Акруговым Выканаўчым Камітэтам. У выпадку, калі на пасяджэньне ня зьявіцца член зямельнай камісіі, хоць бы гэта быў і прадстаўнік Народнага Суду, старшыня, каб не адкладваць пасяджэньня, абавязан замест не зьявіўшагася члена запрасіць на пасяджэньне каго-небудзь з іншых, зацьверджаных Акруговым Выканаўчым Камітэтам, членаў камісіі або кандыдатаў да іх.

Запытаньне Бялынкавіцкай Раённай Зямельнай Камісіі за 19 верасьня г. г. № 5471:

ПЫТАНЬНЕ **146**. У 1923 г. ў парадку землеўпарадкаваньня з складу зямельнае грамады выдзелілася частка двароў і ўтварыла 2 пасёлкі і хутар. Пры складаньні землеўпарадчага праэкту ў лік выдзяляючыхся было ўнесена няправільна некалькі памёршых да таго часу едакоў, а таксама выбыўшых з даннае зямельнае грамады. Такія самыя перамены адбыліся ў складзе выдзеліўшыхся двароў і пасьля зацьверджаньня землеўпарадчага праэкту.

У гэты час ад групы двароў, у складзе якіх ад шлюбаў і нараджэньняў зьявіліся новыя едакі, падаюцца заявы аб забраньні зямлі выбыўшых і аб надзяленьні ёю тых, хто прыбыў.

У зьвязку з тым, што земляўпарадчы праэкт набыў законную сілу, зямельная камісія ня ведае, як рабіць у такім выпадку.

АДКАЗ. Пры падворным парадку землякарыстаньня выхад некаторых членаў з складу двара, па сэнсу арт. 16 Зям. Код., не дае сам па сабе, падставы для адабраньня зямлі ад гэтага двара, бо зямля знаходзіцца ў агульным карыстаньні ўсіх застаючыхся ў ім членаў незалежна ад іх ліку. Апрача таго, на падставе п. 5 Пастановы Савету Народных Камісараў за 6 чэрвеня 1925 г. аб парадку прыстасаваньня норм працоўнага землякарыстаньня, двары, якія земляўпарадкаваны пры Савецкай уладзе, застаюцца пры існуючым землякарыстаньні незалежна ад яго разьмераў. Пагэтаму, да азначаных двароў не прыстасавальна скідка зямлі ў выпадку выбыцьця з іх складу часткі членаў.

Што-ж тычыцца дапушчаных пры земляўпарадкаваньні ў 1923 г. няправільнасьцяй ў вылічэньні едакоў у выдзеліўшайся з грамады групы двароў, то, паскольк̀і земляўпарадчы праэкт зацьверджаны ўсімі інстанцыямі і выкананы, перагляд справы можа быць зроблен толькі ў парадку і пры наяўнасьці падстаў, паказаных у арт. арт. 181—183 інструкцыі аб парадку правядзеньня спраў зямельнымі камісіямі.

Адказы на пытаньні 140—146 даюцца Асобнай Калегіяй Вышэйшага Кантролю пры Нар. Камісарыяце Земляробства БССР (журнал распарадчага пасяджэньня АКВК за 12 кастрычніка 1926 г. № 19).

## 14. Да надыходзячых перевыбараў Савѐтаў.

Кожны год перавыбарчая кампанія Саветаў займае ў нас адзін з галоўнейшых момантаў у нашай агульнай працы. Гэтай кампаніяй захапляюцца ня толькі савецкія і партыйныя органы, але з кожным годам і працоўныя масы гарадоў, мястэчак і вёсак усё больш зацікаўліваюцца перевыбарамі Саветаў і ўсё больш праяўляюць актыўнасьці і чыннага ўдзелу ў перевыбарах. Асабліва шырокі размах мы мелі ў перевыбарчай кампаніі мінулага году, якая дала найбольшы за ўсе гады процант удзелу і актыўнасьці шырокіх працоўных мас гораду і вёскі як на справаздачных сходах, так і на выбарчых. І гэта зусім зразумела: за гады рэвалюцыі палітычная сьвядомасьць усіх колаў насельніцтва значна ўзрасла, эканамічны стан і дабрабыт працоўных гораду і вёскі палепшыўся,—а адсюль—стала ўзрастаць і палітычная актыўнасьць усіх слаёў насельніцтва і зацікаўленасьць мерапрыемствамі Савецкай улады ў справе разьвіцьця народнае гаспадаркі і культуры.

Зразумела, што гэтую зацікаўленасьць і палітычную актыўнасьць шырокіх слаёў працоўных камуністычная партыя і савецкая ўлада павінны былі выкарыстаць у мэтах далейшага паляпшэньня і ўзмацненьня стану і дабрабыту рабочае клясы і сялянства, а разам з тым разьвіцьця і ўзмацненьня ўсяе народнае гаспадаркі і культуры савецкае дзяржавы. Кампанія перевыбараў саветаў мінулага году ў значнай меры апраўдала пастаўленую партыяй мэту. Папярэднія сходы беднаты з прыцягненьнем серадьнякоў, шырокая справаздачная кампанія на перадвыбарчых сходах сельскіх і гарадзкіх, пашырэньне колькасьці выбарчых вучасткаў, пасылка позваў выбаршчыкам і цэлы шэраг іншых арганізацыйных і тэхнічных мерапрыемстваў дапамагалі дасягнуць найбольшых вынікаў перавыбарчай кампаніі.

Але разам з дасягненьнямі было шмат і недахопаў у справе правядзеньня і кіраваньня выбарчай кампаніяй. Галоўнейшыя з іх—гэта: невыстарчальны ўдзел у перавыбарчай кампаніі прафэсіянальных саюзаў (асабліва Рабзямлесу), камітэтаў сялянскай узаемадапамогі і іншых грамадзянскіх арганізацый; невыстарчальная ацэнка ў некаторых выпадках значэньня бядняцкіх сходаў і работы сярод беднаты, а часамі і незразуменьне некаторымі партыйцамі задач і абавязкаў у гэтай працы; перагружанасьць справаздачных і выбарчых сходаў занадта вялікаю павесткаю дня і праз гэтае затомленасьць сходу; пасылка выбарчых позваў у некаторых выпадках цэлым дваром, а ня кожнаму выбаршчыку паасобку; неналаджанасьць вучоту справаздачнай і перавыбарчай кампаніі і маруднасьць у складаньні і адсылцы ў вышэйстаячыя органы сводак, што не давала магчымасьці сваечасова даць агульную ацэнку кампаніі па раёну, акрузе, рэспубліцы; няўдалае часамі складаньне сьпісаў кандыдатаў у члены саветаў, альбо невыразнае выяўленьне ініцыятывы некаторых партыйных арганізацый у справе выстаўленьня кандыдатур у члены саветаў і т. п.

Надыходзячая кампанія перевыбараў Саветаў, дзякуючы вопыту і практыцы мінулага году, павінна прайсьці больш арганізавана і, па магчымасьці, бяз тых недарэчнасьцяй і ўхілаў, якія (хоць і выпадкова) мелі месца ў мінулым годзе.

Выдадзеная Прэзыдыумам ЦВК БССР 13 лістапада г/г. інструкцыя аб выбарах у Саветы (на падставе новай інструкцыі ЦВК Саюзу ССР) даволі дакладна і падрабязна тлумачыць парадак арганізацыі, правы і абавязкі выбарчых камісій, хто карыстаецца выбарчым правам і хто пазбаўлен яго, як складаць сьпісы грамадзян, маючых выбарчыя правы і пазбаўленых гэтых правоў і г. д. Апрача таго, неўзабаве будуць разасланы на месцы досыць дакладныя і ахапляючыя ўсе моманты формы вучоту і статыстыкі па перавыбарчай кампаніі, а таксама падрабязныя ўказаньні і дырэктывы аб самой тэхніцы перевыбараў і складаньні справаздачных і статыстычных матар'ялаў. Гэта, безумоўна, палегчыць работнікам на мясцох іх працу па правядзеньню перавыбарчай кампаніі, калі яны самі сьвядома і сумленна падыдуць да выконваньня гэтае важнае справы. Партыйныя і камсамольскія арганізацыі, наогул, а таксама кожны партыец і камсамолец паасобку павінны ня толькі самі энэргічна і ўмела ўзяцца за гэтую справу, але і прыцягнуць да ўдзелу ў ей актыўныя і спрыяючыя партыі і Савецкай уладзе шырокія колы вясковае і гарадзкое грамадзкасьці, асабліва настаўніцтва, аграномаў, каморнікаў, мэдыцынскі персаналь і г. д.

Тэрміны падрыхтоўчай і перевыбарчай кампаніі Прэзыдыумам ЦВК БССР ўжо вызначаны і апублікаваны ў газэтах. Згодна пастановы Прэзыдыуму ЦВК, перавыбары сельскіх і местачковых Саветаў павінны пачацца з 1-га студзеня 1927 г. Значыць, трэба каб на мясцох зараз-жа прыступілі да падрыхтоўкі да перавыбараў сельскіх і местачковых Саветаў. За гэты тэрмін (да 1-га студзеня) павінна прайсьці справаздачная кампанія, папярэдн'ія сходы беднаты, на якіх належыць (па ініцыятыве парт'ячэек) абмеркаваць і падрыхтаваць кандыдатуры ў члены Саветаў; трэба каб своечасова былі складзены і абвешчаны сьпісы асоб, пазбаўленых выбарчых правоў, прычым да гэтае справы трэба аднесьціся вельмі пільна і асьцярожна. Трэба з усей дакладнасьцю скласьці сьпісы выбаршчыкаў. (Гэта новае мерапрыемства ў надыходзячую перавыбарчую кампанію будзе карысна, з аднаго боку, тым, што палегчыць складаньне статыстычных зьвестак і сводак, а з другога боку,– маючы гэтыя сьпісы непатрэбна будзе запісваць зьявіўшыхся на выбарчы сход, а досыць будзе адзначыць кожнага зьявіўшагася па нумару яго позвы—адпаведны (той самы) нумар у сьпісу).

Таксама трэба зараз-жа паклапаціцца вызначэньнем выбарчых вучасткаў і назначэньнем упаўнаважаных па перавыбарах у іх. Павінна быць загадзя ўдасканалена справа па вызначэньню нацыянальных сельскіх і местачковых Саветаў, бо можа быць, што па вопыту і практыцы мінулага году трэба ўнесьці цяпер якія-небудзь зьмены. Сур'езную ўвагу трэба зьвярнуць на арганізацыю выбарчых камісій, у складзе якіх павінен быць забясьпечаны, як клясавы прынцып, так і нацыянальная азнака. Прафсаюзы (а на вёсцы асабліва Рабзямлес) павінны прыняць у гэтай кампаніі самы актыўны ўдзел. Падрыхтоўчая праца павінна быць праведзена і сярод жанчын; на дэлегацкіх сходах павінна быць выдзелена выстарчаючая колькасьць кандыдатак, вартых правядзеньня ў члены Саветаў.

А самае галоўнае,—гэта паставіць і правесьці ўсю падрыхтоўчую да перавыбараў працу так, каб у Саветы не маглі пралезьці непа-

жаданыя і некарысныя для Савецкае дзяржавы элемэнты. Гэта трэба памятаць лепш за ўсё і прыняць усе крокі да таго, каб у кожным выпадку ўсялякім выступленьням кулацка-буржуазных элемэнтаў і іх груповак быў дадзен рашучы і арганізаваны адпор з боку рабочых, батрацкіх і бядняцка-серадняцкіх мас.

**З. Чарнушэвіч.**

20 лістапада 1926 г.
г. Менск.

---

## 15. Аб праве апякуноў над непаўналетнімі членамі двара патрабаваць падзелу двара і аб абароне пры гэтым праў непаўналетніх.

У практыцы зямельных камісій, а таксама агульна-судовых устаноў, вынікае вельмі цікавае пытаньне аб праве непаўналетніх членаў працоўнае зямляробчае гаспадаркі (двара) у асобе сваіх апякуноў патрабаваць падзелу двара.

Паводле арт. 73 Зям. Кодэксу, патрабаваць падзелу двара ня маюць права асобы, якім не мінула 18 год. Паказаны артыкул Зямельнага Кодэксу нічога не гаворыць аб праве апякуноў патрабаваць выдзелу належнае часьці зямлі і другое маемасьці агульнага карыстаньня двара для іх непаўналетніх падапечных.

Тут неабходна прыняць пад увагу 2 выпадкі: а) калі апякун непаўналетняга і сам непаўналетні зьяўляюцца членамі аднаго двара і апякун, падаючы іск аб выдзеле належнай яму асабіста часьці зямлі і другое маемасьці агульнага карыстаньня двара, разам з гэтым просіць аб далучэньні да яго часьці долі маемасьці яго падапечнага ў зьвязку з пераходам апошняга ў члены яго, апякуна, двара, які нанава ўтвараецца і б) калі непаўналетні член двара праз сваю апеку падае іск аб падзеле для ўтварэньня самастойнае гаспадаркі.

73 арт. Зям. Код. да першага выпадку прыстасаваць нельга, і на падставе 65 і 81 арт. арт. Зям. Кодэксу патрабаваньні апякуна зьяўляюцца ўпаўне законнымі.

У другім жа выпадку трэба ведаць, што 73 арт. Зям. Кодэксу, які паказвае што непаўналетнія ня маюць права патрабаваць падзелу двара, мае на ўвазе падкрэсьліць ня факт недзеяздольнасьці непаўналетніх, у якім выпадку яны мелі-б права патрабаваць падзелу двара праз апеку, а абмяжоўвае іх правадольнасьць у адносінах да патрабаваньня падзелу двара.

Калі-б законадавец хацеў у арт. 73 Зям. Кодэксу падкрэсьліць, што непаўналетнія, як недзеяздольныя, ня могуць асабіста патрабаваць падзелу двара, але могуць гэта права зьдзейсьніць праз апеку, то аб гэтым ня трэба было-б памінаць у паказаным артыкуле, паскольку гэта выцякае з агульна-грамадзянскіх законаў (арт. 7 Г.К.) Нарэшце, трэба было-б у 73 арт. Зям. Кодэксу пералічыць таксама і іншых недзеяздольных асоб, як, напрыклад, душэўна-хворых або слаба-вумных, якія таксама асабіста ня могуць патрабаваць падзелу двара.

Такім чынам, прыходзіцца зазначыць, што непаўналетнія ні асабіста, ні праз сваіх апякуноў ня маюць права патрабаваць падзелу двара.

Аднак, бываюць выпадкі, калі сумеснае жыцьце непаўналетняга з іншымі членамі двара па віне апошніх абсалютна немагчыма. Якім парадкам можна ў гэтым выпадку абараняць законныя права непаўналетняга?

Першае, непаўналетні член двара не пазбаўлен падаць праз свайго апекуна іск аб алімэнтах ва ўстаноўленым для гэтага парадку да асоб, прадугледжаных арт. арт. 161 і 172 Код. Законаў аб Актах Грамадзянскага Стану, г. з. да бацькоў, братоў, сясьцёр і радні па простай усходзячай лініі.

Як-жа быць, калі іск аб алімэнтах да іншых членаў двара ня можа быць падан па тэй простай прычыне, што яны, у тым ліку і гаспадар, не падыходзяць пад катэгорыю асоб, пералічаных у памянутых вышэй арт. арт. 161 і 172 Кодэксу Законаў аб Актах Грамадзянскага Стану, між тым, непаўналетні пастаўлен у такія ўмовы, што сумеснае пражываньне ва двары з іншымі членамі гэтага двара зусім немагчыма.

Тут трэба зазначыць, што ў нашым законадаўстве існуе прабел і яно не дае простага адказу на гэта пытаньне.

Папрабуем вырашыць гэта. Бясспрэчна для нас, што абгрунтоўваць свой іск у гэтым выпадку па існуючых артыкулах дзеючага Кодэксу Законаў аб Актах Грамадзянскага Стану непаўналетні ня можа.

Абарону праў непаўналетняга пры падачы іску праз свайго апекуна да двара ў асобе яго гаспадара аб прысуджэньні сродкаў на ўтрыманьне, трэба шукаць ня ў Кодэксе аб Актах Грамадзянскага Стану, а ў адпаведных артыкулах Зямельнага Кодэксу.

Бо што такое двор? Гэта—сямейна-працоўнае аб'яднаньне асоб, якія разам вядуць сельскую гаспадарку (арт. 63 Зям. Код.). Паводле 65 арт. Зям. Код. права на зямлю, якою карыстаецца двор, а таксама на будынкі і сельска-гаспадарчы інвэнтар належыць усім членам двара ў поўным яго складзе, незалежна ад полу і ўзросту.

Двор, такім чынам, ёсьць невялічкі пярвічны калектыў, у якім кожны яго член, у тым ліку і непаўналетні, мае права толькі на ідэальную яго долю. Праўда, пры падзелах на падставе 81 арт. Зям. Код. гэта ідэальная доля двара атрымлівае канкрэтную рэальную форму.

Хоць непаўналетні ў сілу сваіх фізычных асаблівасьцяй і ня можа працаваць у гаспадарцы, але ён, як роўнапраўны член двара (калектыву), мае права патрабаваць ад апошняга ўтрыманьня на сябе.

Калі-ж члены двара робяць немагчымымі для непаўналетняга ўмовы сумеснага пражываньня, то я лічу, што непаўналетні праз сваю апеку мае права да дасягненьня ім свайго поўналецьця, г. з. да таго моманту, калі ён атрымае права патрабаваць падзелу двара, падаць іск аб прысуджэньні яму з двара, членам якога ён зьяўляецца, сродкаў на ўтрыманьне. Вядома, што пры вырашэньні гэтага пытаньня прыйдзецца прыняць пад увагу моцнасьць двара, яго штогадовы прыбытак, а таксама неабходны для непаўналетняга пражытачны мінімум.

Яшчэ пара слоў аб падсуднасьці гэтых іскаў.

Паскольку падсуднасьць Зямельных Камісій зьяўляецца спэцыяльнай і артыкуламі 199 і 200 Зям. Кодэксу, якія гавараць аб падсуднасьці зямельных камісій, а таксама артыкуламі 19 і 20 інструкцыі Нар. Камісарыяту Земляробства аб парадку правядзеньня

10) Шляхі перавозу

11) Краіна і пункт прызначэньня

12) №№ вагонаў (альбо назва параходу)

13) №№ накладных (транспартных дакумэнтаў)

Ніжэй падпісаны вэтэрынарны ўрач сьведчыць, што паказаная вышэй жывёла паходзіць з мясцовасьцяй бясьпечных па заразьлівых хваробах жывёлы і знойдзена па вэтэрынарна-санітарнаму агляду, зробленаму беспасрэдна перад пагрузкай яе, ня хворай заразьлівымі хваробамі.

Урадавы вэтэрынарна-санітарны ўрач
прыгранічнага пункту (Подпіс).

(М. П.)

ДАДАТАК 7.
Форма № 7.

С. С. С. Р.

Вэтэрынар. Кіраўніцтва НКЗ БССР
........................ кантрольны
прыгранічны вэтэрынарна-санітарны пункт.

Вэтэрынарны сэртыфікат №

на адпраўку за граніцу мяса.

1) 192 ...... году ...... месяца ...... дня.

2) Месца выдачы сэртыфікату

3) Адправіцель
(імя, імя па бацьку, прозьвішча, фірма, установа)

4) Адрас адправіцеля

5) Назва прадукту (па родах жывёлы)

6) Гатунак мяса (марожанае, копчанае і інш.)

7) Род пакаваньня

8) Колькасьць

9) Вага

10) Клеймы (маркі, плёмбы)

11) Станцыя адпраўленьня

12) Шляхі перавозу

13) Краіна і пункт прызначэньня

14) №№ вагонаў (альбо назва параходу)

15) №№ накладных (транспартных дакумэнтаў)

Ніжэй падпісаны вэтэрынарна-санітарны ўрач гэтым сьведчыць, што паказанае вышэй мяса паходзіць з мясцовасьцяй бясьпечных па заразьлівых хваробах жывёлы, атрымана ад жывёлы, зьявіўшайся па вэтэрынарна-санітарнаму агляду да забою здаровай і забітай на зна-

ходзячыхся пад сталым вэтэрынарным наглядам разьніцах. Мяса да пакаваньня было прызнана годным да ўжываньня ў яду і запакавана з належнай чыстатой і стараннасьцю, з пільнаваньнем санітарных правіл, ахоўваючых народнае здароўе.

Урадавы вэтэрынарна-санітарны ўрач
прыгранічнага пункту (подпіс).

(М. П.)

---

С. С. С. Р.

ДАДАТАК 8.
Форма № 8.

Вэткіраўніцтва НКЗ БССР

.................. кантрольны прыгран. вэтэрынарна-санітарны пункт.

Вэтэрынарны Сэртыфікат № ..........

на адпраўку за граніцу прадуктаў жывёлагадоўлі.

1) 192 году ________ месяца ........ дня
2) Месца выдачы сэртыфікату ________
3) Адправіцель ........
(імя, імя па бацьку, прозьвішча, установа, фірма)
4) Адрас адправіцеля ........
5) Назва прадукту ........
6) Гатунак яго (па характару апрацоўкі) ________
7) Род пакаваньня ........
8) Колькасьць ........
9) Вага ________
10) Клеймы (маркі, плёмбы) ........
11) Станцыя адпраўленьня ________
12) Шляхі перавозу ........
13) Краіна і пункт прызначэньня ________
14) №№ вагонаў (альбо назва параходу) ________
15) №№ накладных (транспартных дакумэнтаў) ........

Ніжэй падпісаны вэтэрынарны ўрач гэтым сьведчыць, што пералічаныя вышэй прадукты паходзяць з мясцовасьцяй бясьпечных па заразьлівых хваробах. Загатоўка і пакаваньне прадуктаў зроблена з належнай чыстатой і стараннасьцю, з захаваньнем санітарных правіл, ахоўваючых народнае здароўе.

Урадавы вэтэрынарна-санітарны ўрач
прыгранічнага пункту (подпіс).

(М. П.)

## 17. Аб льготах сялянскай беднаце.

Савецкая ўлада ўвесь час з вялікаю ўвагаю адносіцца да вясковае беднаты для таго, каб яшчэ больш узмацніць сувязь і дружбу бедняка з серадняком, адгарадзіць іх ад кулака, каб яны цеснаю сьцяною стаялі за неразрыўны саюз з рабочаю клясаю, за перамогу працоўных, якая можа быць канчатковай пры актыўнай дапамозе бедняка і серадняка вёскі.

Савецкая ўлада ўвесь час прымае меры да палепшаньня становішча беднаты, да ўзмацненьня яе гаспадаркі. Нідзе няма такога становішча, каб вясковая бедната звальнялася ад дзяржаўных падаткаў, каб селянін-бядняк быў дарэмна надзелен зямлею, каб ён прыцягваўся да кіраўніцтва дзяржаваю. Такім правам і становішчам вясковая бедната карыстаецца толькі пры Савецкай уладзе. Аб гэтым могуць сьведчыць наступныя данныя аб тых льготах і дапамозе, якія былі дадзены сялянскай беднаце на працягу ўсяго 1925/26 гаспадарчага году.

Так, ад адзінага сельска-гаспадарчага падатку звольнена ў БССР ў 1926 г. 44.124 гаспадаркі на суму 61.916 р., звольнена таксама ад сельска-гаспадарчага падатку 23.717 гаспадарак, на якіх прыпадала падатку менш аднаго рубля на суму 15.551 р. Апрача таго звольнена ад падатку 59.750 гаспадарак за лік 3-х процантнага фонду для незаможных гаспадарак, якія не падыходзяць пад льготы, прадугледжаныя дэкрэтам аб адзіным сельска-гаспадарчым падатку на 1925/26 г. Усяго звольнена ад сельска-гаспадарчага падатку 127.591 гаспадарка, на суму 377.508 руб.

Дадзена льгот па сельска-гаспадарчаму падатку 28.293 гаспадаркам вайскоўцаў і слухачоў вышэйшых навучальных установаў на суму 183.545 руб., 35.103 гаспадаркам перасяленцаў і расьсяленцаў на суму 505.251 р., 360 калектыўным гаспадаркам, пацярпеўшым ад стыхійных няшчасьцяў, на суму 165.185 р., а таксама выдадзена прэмій за лепшае вядзеньне гаспадаркі на суму 110.542 р.

Усяго звольнена ад сельска-гаспадарчага падатку і дадзена льгот на суму 1.371.121 р.

У параўнаньні з леташнім годам (1.114.819 р.) маем перавышэньне сумы на 256.202 р. Гэта яшчэ раз сьведчыць аб тым, што савецкая ўлада з кожным годам усё з большаю ўвагаю адносіцца да сялянскае беднаты.

Пры правядзеньні земляўпарадкаваньня ў 1925/26 годзе звольнена ад платы за земляўпарадчыя работы на суму 28.040 р. (толькі па 4-х акругах БССР). У 1924/25 годзе было звольнена ад платы на суму 11.210 р. Дадзена льгот пры земляўпарадкаваньні на суму 33.596 р. (па 3-х акругах). У 1924/25 годзе дадзена льгот на суму 6.000 р.

Бясплатнага лесу дадзена бяднейшаму сялянству ў 1925/26 годзе на суму 351.061 р., у 1924/25 годзе—на суму 118.340 р. Дадзена лесу на льготных умовах у 1925/26 годзе на суму 268.483 р. і ў крэдыт на суму 340.867 р., а ў 1924/25 годзе на суму 300.000 р.

У галіне абавязковага акладнога страхаваньня ў 1925/26 годзе звольнена ад узносу страхоўкі па страхаваньні будынкаў ад агню 94.325 сельскіх двароў, па страхаваньні жывёлы ад паморку—65.740 двароў, па страхаваньні пасеваў ад граду—90.562 двары, а ўсяго на суму 294.962 руб. 73 к. (па сельскаму акладному страхаваньню) і на 7.220 р. 18 к. па гарадзкому страхаваньню.

Усяго ў БССР звольнена ад узносу страхоўкі па ўсіх відах абавязковага акладнога страхаваньня на суму 302.183 р.

Але мала даваць льготы, трэба падняць гаспадарку беднаты, трэба ўцягнуць беднату ў каапэрацыю і ў грамадзкую працу.

У гэтым напрамку Савецкая ўлада таксама рабіла адпаведныя захады.

Так, Беларускім С.-Г. Банкам быў утворан спэцыяльны фонд беднаты ў суме 500.000 р. Гэта сума складаецца: з 400.000 р., асыгнаваных па надзвычайным бюджэце і 100.000 р. з лясных даходаў. Апрача гэтага, у фонд беднаты выдзелена з прыбыткаў Банку —36.498 р.

З усяе гэтае сумы—471.498 р. разьмеркавана па акругах для крэдытаваньня бядняцкіх гаспадарак на тэрмін ад 2 да 6 год з 5% гадавых, якія сыскваюцца кожны раз праз паўгода. Рэшта 65.000 р. дадзены Цэнтральнаму Камітэту Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі на ўтварэньне насеннага фонду для задавальненьня бядняцкіх гаспадарак насеньнем.

З агульных сродкаў сыстэмы с.-г. крэдыту бядняцкія гаспадаркі крэдытуюцца пераважна перад іншымі гаспадаркамі, аб чым сьведчыць наступная табліца аб разьмеркаваньні пазычак, выданых нізавою крэдытнаю сеткаю БССР з 1 кастрычніка 1925 г. па 1 верасьня 1926 году.

| Выдана за 11 м-цаў: Пазычак | Выдана за 11 м-цаў: Сума ў тысячах | Разьмеркаваньне аднаасабовых пазычкоўцаў па пасеўнасьці | | Лік пазычак у % | Сума пазычак у % | Разьмеркаваньне пазычкоўцаў па рабочай жывёле | Лік пазычак у % | Сума пазычак у % |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 122.049 | 4.532,7 | Беспасеўных | | 2,1 | 4,3 | Бяз коней | 22,7 | 32,4 |
| | | З пасев. да | 1 дз. | 6,8 | 6,7 | З 1 канём | 60,6 | 51,9 |
| | | „ „ „ | 2 „ | 14,6 | 14,1 | „ 2 коньмі | 14,3 | 13,1 |
| | | „ „ „ | 4 „ | 23,2 | 27,0 | „ 3 „ | 1,9 | 1,7 |
| | | „ „ „ | 6 „ | 25,0 | 25,3 | „ 4 і больш | 0,5 | 0,9 |
| | | „ „ „ | 8 „ | 12,6 | 13,0 | | | |
| | | „ „ „ | 16 „ | 7,8 | 7,9 | | | |
| | | Звыш | 16 „ | 7,9 | 1,7 | | | |
| | | | | 100 | 100 | | 100 | 100 |

Пры ўступленьні бядняцкіх гаспадарак членамі с.-г. крэдытных таварыстваў ім даюцца льготы па выплаце паю з адтэрмінаваньнем да аднаго году і больш.

Льготы бяднейшаму сялянству даваліся таксама і ў галіне с.-г. каапэрацыі. Гэтыя льготы выяўляліся, па-першае, у выплаце членскіх узносаў за беднякоў, якія ўступалі ў члены каапэрацыі. Для гэтага быў утвораны асобны „паявы фонд“ у суме 5.725 р. Гэтая сума складзена з адлічэньняў: сельска-гасп. саюзаў—2.366 р., нізавое сеткі —2.302 р., вык. камітэтаў і камітэтаў сялянск. узаемадапамогі—1.056 р.

Але гэтыя лічбы яшчэ не гавораць аб тым, што ўсё зроблена ў гэтым напрамку, бо дакладных данных аб адлічэньнях у сыстэме с.-г. каапэрацыі яшчэ няма. Тыя-ж данныя, якія цяпер ёсьць, паказваюць, што ў 3-х акругах каапэравана 1.586 бядняцкіх сялянскіх двароў.

Другім відам дапамогі сялянскай беднаце сельска-гаспадарчаю каапэрацыяю зьўлялася дача незаможным сялянам розных работ пры каапэратывах, пры гэтым частка іх заработку ішла на выплату ўзносаў і гэтым самым давалася магчымасьць льготнага ўваходу пайшчыкаў у сельска-гаспадарчую каапэрацыю.

Апрача гэтых відаў льгот у галіне с.-г. каапэрацыі трэба таксама адзначыць, што сялянскай беднаце выдаваліся тавары, якіх не хватала, у першую чаргу, а таксама даваўся больш доўгі тэрмін крэдытаваньня.

Больш поўныя зьвесткі аб льготах, дадзеных беднаце ў галіне с.-г. каапэрацыі, могуць быць дэтальна адзначаны пасьля перавыбараў праўленьняў с.-г. таварыстваў.

Спажывецкаю каапэрацыяю за пэрыяд праведзенае кампаніі па каапэраваньні беднаты каапэравана 15.726 бядняцкіх сялянскіх гаспадарак за лік сродкаў, складзеных з адлічэньняў спажывецкімі саюзамі, нізавою сеткаю, выканаўчымі камітэтамі і камітэтамі ўзаемадапамогі ў суме 57.937 р.

Апрача ўсіх, адзначаных вышэй льгот, давалі дапамогу беднаце таксама камітэты сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі. За пэрыяд з 1 кастрычніка 1925 г. да 1 ліпеня 1926 г. камітэтамі сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі праведзены наступныя мерапрыемствы:

1) 46.665 гаспадаркам дадзена пазычак у веснавую пасеўную кампанію 160.036 пуд. насеньнем і 17.508 руб. грашыма.

2) 12.283 гаспадаркам дадзена пазычак на розныя патрэбы: збожжам—22.498 пуд. і грашыма—32.139 р.

3) 5.310 гаспадаркам дадзена дапамога без звароту: збожжам —4.141 пуд. і грашыма—14.324 р.

4) 8.581 гаспадарцы дадзена працоўная дапамога: людзьмі—7.360 дзён, коньмі—3.746 дзён, апрацована 1.347 дзес. зямлі і пабудавана 3 будынкі.

5) Паміж 398 гаспадарак разьмеркавана 398 забракованых коней, атрыманых ад вайсковых часьцей.

6) За кошт камітэтаў сялянскае ўзаемадапамогі каапэравана 9.139 бядняцкіх гаспадарак.

Усяго за пэрыяд з 1 кастрычніка 1925 г. да 1 ліпеня 1926 году дадзена дапамога 82.476 гаспадаркам праз выдачу ім 186.676 пудоў збожжа, 63.972 р. грашыма і дадзена працоўная дапамога ў ліку 5.093 дні.

Апрача гэтага Камітэтамі сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі даецца дапамога членам таварыстваў праз арганізацыю арцелей і таварыстваў, якіх за гэты пэрыяд было арганізавана—30 з лікам членаў у іх 623. Камітэты сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі даюць таксама дапамогу бядняцкім гаспадаркам на сваіх прадпрыемствах (млыны і інш.).

**А. Майсейчык.**

---

## 18. Аб льготах па дзяржаўным страхаваньні.

Праводзячы абавязковае акладное страхаваньне будынкаў, рагатае жывёлы і пасеваў у БССР, органы Дзяржаўнага Страхаваньня імкнуцца да большага забесьпячэньня інтарэсаў бядняцкіх маламоцных гаспадарак устанаўленьнем танных тарыфаў, з аднаго боку, і пазбаўленьнем, шляхам дачы льгот, больш слабых гаспадарак ад выплаты страхавых плацяжоў.

У 1926-27 годзе льготы па абавязковым страхаваньні вызначаны ў разьмеры 10% агульнае сумы налічаных па Рэспубліцы страхавых пляцяжоў, што складае каля 247.000 руб. Апрача таго, у гэтым годзе разьмяркоўваюцца невыкарыстаныя ў мінулым годзе льготы у разьмеры 3% пляцяжоў, якія належалі ў мінулым годзе, што складзе 57.571 руб. Такім чынам, у 1926-27 годзе будзе зьнята ў парадку льгот наогул каля 298.000 руб., што ахопіць усе бядняцкія гаспадаркі Рэспублікі.

Па прынятаму Эканамічнай Нарадай БССР рашэньню, страхавыя льготы даюцца беднейшым або засьцігнутым стыхійнымі няшчасьцямі гаспадаркам, з якіх страхавыя плацяжы зьнімаюцца зусім, або на палавіну, перасяленцам і расьсяленцам, сем'ям асоб, узятых у Чырвоную Армію, з якіх зьнімаецца 1/3 плацяжу, і дабрахвотным пажарным арганізацыям шляхам бясплатнага страхаваньня іх службовых будынкаў (дэпо і інш.).

Агульная сума льгот разьмяркована па акругах прапарцыянальна суме налічаных у кожнай паасобнай акрузе плацяжоў. Атрыманая акругай сума льгот разьмяркоўваецца па раёнах акругі спэцыяльнай камісіяй. У раёнах гэтыя льготы такой-жа спэцыяльнай камісіяй разьмяркоўваюцца па сельсаветах. Сельскія саветы пры ўдзеле прадстаўніка Камітэту Грамадзкай Узаемадапамогі і ўпаўнаважанага ад грамадзян вёскі, разьмяркоўваюць льготы між паасобнымі гаспадаркамі.

Устанаўленьнем такога парадку разьмеркаваньня льгот органы Дзяржаўнага Страхаваньня імкнуцца больш прыблізіць страхавую справу да самага насяленьня і на мясцох уцягнуць самых страхавальнікаў у гэту работу.

Работа па разьмеркаваньні льгот павінна быць закончана не пазьней 31 сьнежня 1926 г., бо гэта мае вельмі важнае значэньне як для бядняцкіх гаспадарак, так і для органаў Дзяржаўнага Страхаваньня. Для першых—высьвятленьнем неабходнасьці ўносіць плацяжы і разьмераў іх, а для другіх—высьвятленьнем канчатковага складу плацельшчыкаў страхавых плацяжоў і накіраваньнем энэргіі страхавых работнікаў у бок сыскваньня страхавых плацяжоў з іншых гаспадарак. Калі гэта работа зацягнецца і бедната ня будзе да гэтага тэрміну пазбаўлена ад выплаты страхавых плацяжоў, ей пасьля сьнежня будзе значна трудней уносіць плацёж, чым на месяц раней. Апрача таго, важнае значэньне мае пазбаўленьне бядняцкае часьці насельніцтва ад неабходнасьці доўгага хаджэньня да страхавога агента за спраўкамі аб лёсе сваіх льгот і своечасовае высьвятленьне для плацельшчыкаў іх абавязкаў.

Практыка мінулага году паказала, што ў шэрагу месц невыстарчальна была прынята пад ўвагу аграмадная важнасьць своечасовае і хуткае дачы льгот насяленьню і гэта работа зацягнулася на цэлыя месяцы, чым быў падарваны ня толькі аўтарытэт самых льгот, але гэта пашкодзіла таксама часткі беднаты. Гэту памылку трэба

мець на ўвазе ў гэтым годзе і прыняць па ўсёй лініі работы рашучыя меры да дачы льгот на мясцох не пазьней назначанага заканадаўчымі органамі тэрміну (1 студзеня 1927 г.) з тым, каб сьпіскі вызваленых ад платы былі своечасова перададны страхавым агэнцтвам і прыняты імі пад ўвагу пры рабоце.

Работа па дачы льгот беднаце мае вялікае палітычнае значэньне і на гэту работу павінна быць зьвернута найбольшая ўвага работнікаў. Неабходна старанна правяраць сьпісы асоб, якія намячаюцца да вызваленьня ад платы страхавых плацяжоў і ўсю работу праводзіць так, каб падлягаючыя вызваленьню асобы знали свае правы і каб не было выпадкаў дачы льгот больш заможным гаспадаркам. Кантроль самога насяленьня ў асобе яго ўпаўнаважаных павінен зрабіць тут большую дапамогу як ў адносінах пунктуальнага і хуткага выяўленьня кадраў беднаты, так і хутчэйшае дачы самых льгот.

**А. Брынберг.**

---

## 19. Аб льготах сялянству па земляўпарадкаваньні і перасяленьні.

III-ім З'ездам Саветаў СССР 20 мая 1925 г. ў г. Маскве была прынята пастанова па дакладу аб мерапрыемствах па падняцьці і ўзмацненьні сялянскае гаспадаркі.

Пастанова гэта дала Ураду далейшы напрамак работы ў галіне сельскае гаспадаркі, накіраваўшы яе да падняцьця ўсяе масы сялянскіх гаспадарак. Сваею пастановаю З'езд, між іншым, адносна земляўпарадкаваньня і перасяленьня прызнаў неабходным: 1) закончыць земляўпарадкаваньне ў 10-ці гадовы тэрмін, прыняўшы за кошт дзяржавы аплату земляўпарадчых работ для бядняцкае часткі сялянства і павялічыўшы крэдыт сялянству на земляўпарадкаваньне, пры гэтым і тэрмін, на які гэты крэдыт выдаецца, прызнана было патрэбным прадоўжыць і 2) у мэтах дачы сялянству малазямельных раёнаў магчымасьці перасяляцца на незанятыя землі, прызнана неабходным пашырыць работу па падрыхтоўцы гэтых зямель, а таксама па задавальненьні перасяленцаў патрэбным інвэнтаром, павялічыўшы водпуск дзяржаўных сродкаў на гэту патрэбу.

На аснове гэтае пастановы III-га З'езду Саветаў СССР, ЦВК і СНК СССР 10-га верасьня г. г. выдалі пастанову „аб льготах сялянскаму насельніцтву па земляўпарадканьні і перасяленьні (З. З. СССР 1927 г. № 61, арт. 455).

Дзейнасьць гэтае пастановы больш за ўсе зьяўляецца карыснай для нашае Рэспублікі, якая для падняцьця свае гаспадаркі патрабуе земляўпарадкаваньня і перасяленьня сем'яў, ня маючых выстарчальнае колькасьці зямлі, у другія мясцовасьці Саюзу дзе ёсьць незанятыя вучасткі.

Што тычыцца льгот па земляўпарадкаваньні, то яны, галоўным чынам, даюцца бяднейшаму насяленьню. Так, пры пераходзе зямельных вобчастваў на шматпольле або пры земляўпарадкаваньні для пашырэньня землякарыстаньня, як пры ўнутрыпаселішчным так і міжпаселішчным земляўпарадкаваньні, выдаткі пры правядзеньні гэтых работ бяднейшае часткі сялянства прымаюцца на кошт дзяржавы. Вызначэньне груп бяднейшага сялянства, якому даецца гэта палёгка, вызначаецца заканадаўствам саюзных рэспублік. Таксама Са-

юзнымі рэспублікамі ўстанаўляецца чарговасьць работ па земляўпарадкаваньні, у залежнасьці ад форм землякарыстаньня. Выдаткі на правядзеньне земляўпарадчых работ праводзяцца па бюджэтах Саюзных рэспублік. Апрача гэтага для працоўнага сельскага насяленьня, якое земляўпарадкоўваецца, даецца доўгатэрміновы крэдыт да 8-мі год на льготных умовах для правядзеньня гэтых работ. Групы насяленьня, якім даецца крэдыт, вызначаюцца законадаўствам паасобных рэспублік і ўмовы гэтага крэдытаваньня распрацоўваюцца Цэнтральным сельска-гаспадарчым банкам па ўзгадненьні з НКФ СССР і прадстаўніцтвамі саюзных рэспублік.

Што тычыцца другое часткі льгот—льгот па перасяленьні,— то яны, галоўным чынам, ідуць па лініі сельска-гаспадарчага падатку.

Так, працоўныя землякарыстальнікі і іх аб'яднаньні (арцелі, камуны, таварыствы) на працягу пяці год пасьля замацаваньня іх на новых мясцох, звальняюцца ад абкладаньня сельска-гаспадарчым падаткам. Апошняе робіцца пры ўмове, калі яны перасяліліся і расьсяліліся паводле правіл аб перасяленьні і земляўпарадкаваньні і калі ўпарадкаваньне гэтых гаспадарак патрабуе з боку землякарыстальнікаў раскарчовак ці іншае мэліарацыі зямель, каб падрыхтаваць глебу для засеваў.

Калі-ж упарадкаваньне гаспадаркі патрабуе толькі падняцьця цаліны ці ўвядзеньня палепшаных форм землякарыстаньня—шматпольля, увядзеньня травяных ці акучных культур, сухменьтрывалых культур у сухменных мясцох або сяўбы сэлекцыйным насеньнем, то гэтыя гаспадаркі звальняюцца ад сельска-гаспадарчага падатку ў працягу трох год, калі ўпарадкаваньне робіцца пры ўмове тых самых правіл аб перасяленьні і земляўпарадкаваньні.

Калі пераход перасяленца на новае месца патрабуе толькі пабудаваньня будынкаў на новым месцы і не патрабуе правядзеньня на ім мэліарацыі, падняцьця цаліны і дазваляе заставіць гаспадарку пры звычайных спосабах землякарыстаньня, то перасяленцы звальняюцца ад сельска-гаспадарчага падатку тэрмінам на адзін год з моманту пераходу да землякарыстаньня на новым месцы.

Льготы па сельска-гаспадарчым падатку ўводзяцца ў дзейнасьць з 1926-27 акладнога году.

Апрача льгот па сельска-гаспадарчым падатку перасяленцам даюцца яшчэ і іншыя льготы, якія тычацца перавозак.

Перасяленцы—працоўныя землякарыстальнікі, якія перасяляюцца і расьсяляюцца на новыя месцы, іх сем'і і маемасьць перавозяцца па спэцыяльнаму льготнаму тарыфу для перасяленцаў. Маемасьць перасяленцаў звальняецца таксама ад абкладаньня мясцовым падаткам з цяжараў, якія перавозяцца і вывозяцца па чыгунках і водных шляхох.

**В. К—п.**

---

Адказны Рэдактар: **Рэдакцыйная Калегія**.

